В. І. Свірыдзенка

# Беларуская мова

Падручнік для 2 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з рускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 2

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2015

УДК 811.161.3(075.2=161.1)
ББК 81.2Рус-922
С24

Р э ц э н з е н т

канд. пед. навук, дац., вядучы навуковы супрацоўнік лабараторыі пачатковай адукацыі Навукова-метадычнай установы «Нацыянальны інстытут адукацыі» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь *М. Б. Анціпава*

**Умоўныя абазначэнні:**

 — правіла;

 — інфармацыя пра мову і маўленне (чытае настаўнік);

 — слоўнік;



— заданне па развіцці маўлення;

 — дамашняе заданне;

 — слоўнікавае слова;

.. — пропуск адной літары або некалькіх літар;

... — пропуск слова

ISBN 978-985-559-441-4 (ч. 2)
ISBN 978-985-559-439-1

# ГУКІ І ЛІТАРЫ

## Цвёрдыя і мяккія зычныя гукі. Іх абазначэнне на пісьме

**1.** Вымавіце словы парамі. Якімі гукамі яны адрозніваюцца?

нос — нёс
воз — вёз

стол — столь
вугал — вугаль



***столь*** — рус. потоло́к

Якімі літарамі адрозніваюцца словы? Як перадаецца на пісьме мяккасць зычных гукаў?

Зычныя гукі бываюць цвёрдыя і мяккія. Мяккасць зычных гукаў на пісьме абазначаецца літарамі ***е, ё, ю, я, і, ь***: *верасе**нь**, к**лё**н, **лі**па, з**я**з**ю**л**я***.

**2.** Прачытайце. Вымавіце выдзеленыя словы парамі. Якія гукі адрозніваюць значэнне аднаго слова ад другога?

Мой мядзведзік мае **моду**
перад сном паесці **мёду.**

А грыбоў жа ў **бары**!
Самі просяцца**: бяры**!

Зноў карась разводзіць **плёткі:**
— Шчупака пабілі **плоткі.**

*Н. Сторажава.*



***разво́дзіць плёткі*** *— гаварыць няпраўду*
***ма́е мо́ду*** *— мае звычку*

Выпішыце выдзеленыя словы. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць мяккасць зычных гукаў на пісьме.

**3.** Разгледзьце форзацы. Назавіце парныя цвёрдыя і мяккія зычныя гукі. Які гук [й’]? Які гук [ў]? Вымавіце словы *гара, гіра*. У якім слове гук [г] цвёрды, а ў якім мяккі?

**4.** У радзе літар знайдзіце назвы рыб.

шчупакарплоткакунёкарась



*шч..к*



*пл..а*



*к..п*



*а..к*



*к..сь*

Запішыце гэтыя словы. Назавіце словы, у якіх усе зычныя гукі цвёрдыя.

Назавіце словы з мяккімі зычнымі гукамі. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць мяккія зычныя гукі.

**5.** Прачытайце. Што трэба для рыбалкі?

Вось кручок, вось чарвячок,  
лёска, палка — і рыбалка.  
Закідай хутчэй, Міхалка.

*У. Карызна.*

Спішыце. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць мяккасць зычных гукаў на пісьме.

**6.** Прачытайце скорагаворку. Навучыцеся правільна вымаўляць яе.

Сам з сябе смяецца сом,
сом прыснiў са смехам сон.
*К. Камейша.*

Выпішыце словы, у якіх усе зычныя цвёрдыя. Назавіце словы, якія адрозніваюцца паміж сабой адным гукам.



**7.** Адгадайце загадку.

Хто жыве ў віры ля кручы,
паласаты і калючы,
мае крылы, хоць не птах,
а на рыб наводзіць жах?
*С. Кацуба.*

а у н ь к

Спішыце загадку. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць мяккія зычныя гукі.

**8.** Прачытайце. Устаўце ў сказы словы з дужак.

У малога ... новенькія ... *(Санькі, санкі)*.

Чмель стаміўся, сеў на ..., адпачне і будзе ... *(лотаць, лётаць) (Н. Сторажава)*.



*лотаць*

Якімі гукамі адрозніваюцца словы ў дужках? Назавіце і падкрэсліце літары, якімі адрозніваюцца гэтыя словы.




**9.** Прачытайце верш.

**Люстэрка**

Ва ўсіх ры́бак-дзяўчат
карп люстра́ны — нарасхват.
Ці збіраецца **бяседа**,
ці гулянка ў **суседа** —
**модніцы** да карпа гужам:
ён люстэркам добрым служыць.

*В. Зуёнак.*





***гу́жам*** — *адзін за адным*
***люстэ́рка*** — рус. *зе́ркальце*

Выпішыце выдзеленыя словы. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць мяккасць зычных.

Рм **10.** Дапоўніце сказы патрэбнымі словамі.

Майго … па парце клічуць … . (Маю … па парце клічуць … .)

У … з намі кватэры жыве сям'я … .

Краіны **Літва**, Латвія, Расія, **Польшча**, Украіна — … **Беларусі**.

С л о в ы  д л я  д а в е д к і: *суседку, суседа, суседкі, суседняй*.

Запішыце апошні сказ. У выдзеленых словах назавіце мяккія зычныя гукі.

**11.** Прачытайце прымаўку. Калі так гавораць?

Рыбка ў рацэ́, ды не ў руцэ́.

Назавіце словы, якія адрозніваюцца адным гукам. Назавіце зычныя гукі ў гэтых словах. Яны мяккія ці цвёрдыя?

**12.** Прачытайце скорагаворку.

Пайшоў Сёма лавіць со́ма,
Соня спіць спакойна дома.
Сёму — сом, Соні — сон.
*М. Мінчанка.*

Назавіце пары слоў, якія адрозніваюцца адным гукам. Запішыце пары слоў пад дыктоўку настаўніка.

Назавіце пару слоў, якая адрозніваецца гукамі [с]—[с’].



**13.** Прачытайце верш.



З татам крочым на рыбалку,
я люблю рыбалку змалку.
Вуды, бле́шня і чарвяк...
Ты плыві да нас, шчупак!

*Т. Мушынская.*



***бле́шня*** *— металічная пласцінка, да якой прымацоўваецца кручок*

Спішыце першы сказ. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць цвёрдыя зычныя гукі.

## Зычныя гукі [д]—[дз’]

**14.** Прачытайце скорагаворку. Навучыцеся правільна вымаўляць яе. Назавіце першы гук у словах. Які з гэтых гукаў мяккі?

Дзіма дзіўна дзяліў дыню.

**15.** Адгадайце загадку. Цвёрдыя ці мяккія гукі абазначаюць выдзеленыя літары?



Побач з плотам на градзе
смачны жоўты шар расце.
На граду хутчэй ідзі,
гэты шар сабе сарві.

Запішыце загадку разам з адгадкай.

**16.** Вымавіце словы парамі.




гарады — у горадзе
бяда — у бядзе
вада — на вадзе
дні — дзень

Якія гукі абазначаюць выдзеленыя літары? Які з гукаў цвёрды, а які мяккі?

Гук [д] цвёрды. Ён абазначаецца на пісьме літарай ***д***. Пасля літары ***д*** пішуцца ***а, о, у, э, ы***: дом, дым.

Гук [дз'] мяккі. Ён абазначаецца на пісьме літарамі ***д, з***. Пасля ***дз*** пішуцца ***е, ё, ю, я, і, ь***: дзень, дзяўчынка.

**17.** Прачытайце. Які злодзей пабываў у агародзе? Па чым вы яго пазналі?



У бабулі ў агародзе
пабываў сягоння злодзей.
Ён качан капусты з'еў
і з удзячнасцю глядзеў
на бабулю і на дзеда.
— Мэ-э-э! Я смачна паабедаў.

*Т. Кляшторная.*

Знайдзіце ў тэксце словы з гукам [дз'], выпішыце іх. Падкрэсліце ***дз*** разам з наступнай літарай.

**18.** Прачытайце. Спачатку назавіце словы з гукам [д], а потым — з гукам [дз'].

Дзіна, дыня, Дзяніс, Дана, дзюба, дом, Даніла, дзяцел, дарога, дзень.

Запішыце пад дыктоўку словы з [дз'].



**19.** Прачытайце. Спішыце. Падкрэсліце ***дз*** разам з наступнай літарай.

Дрэва пасадзіў — дабро людзям зрабіў.

**20.** Дапоўніце сказы патрэбнымі словамі.



— санітар лесу.



любіць жалуды.



— прыгожыя птушкі.

Назавіце словы з гукам [дз’]. Запішыце адзін сказ на выбар. Падкрэсліце ***дз*** разам з наступнай літарай.

**21.** Прачытайце прыказку. Якія гукі вымаўляюцца на месцы пропускаў? Якія літары трэба ўставіць у словы?

Сапраў..ны сябар не пакіне таварыша ў бя..е.

Спішыце. Устаўце патрэбныя літары.

**22.** Паслухайце верш. Чаму дзяцей назвалі добрымі?

Ехалі дзеці аднойчы ў трамваі.
Месцы дарослым яны ўступалі,
дапамагалі сыходзіць старым.
— Добрыя дзеці, — казалі ўсе ім.

*Т. Кляшторная.*

Назавіце словы, у якіх ёсць гук [дз’].

**Рм** Вусна адкажыце на пытанні.

1. Як трэба размаўляць у аўтобусе, трамваі, тралейбусе, метро?
2. Каму трэба ўступаць месца ў транспарце?

**23.** Паслухайце верш. Як Жора дапамагае дарослым? Як вы разумееце выраз: *ты для нас — апора*?

## Апора

..ень без руху — нецікавы,
не люблю ся..ець без справы.
Я шпакам змайструю хатку,
маме я ўскапаю градку,

для дзядулі без сяброў
накалю гару я дроў.
Тата хваліць: «Дзякуй, Жора!
Ты для нас усіх — апора».

*В. Рамашка.*



Запішыце першы сказ, устаўце патрэбныя літары. Падкрэсліце літары, якія пішуцца пасля ***дз***. Выпішыце слова ветлівасці, якое сустрэлася ў вершы.

**Рм** Раскажыце, якія справы вы любіце рабіць разам з дарослымі.

**24.** Прачытайце прыказку. Чаму так гавораць? Назавіце словы з гукамі [д], [дз'].

Садок пасадзіў — добрую справу зрабіў.

Запішыце прыказку пад дыктоўку настаўніка.

**25.** Адкажыце на пытанні, карыстаючыся словамі з правага слупка. Які гук вымаўляецца ў гэтых словах замест [д]?

| | |
|---|---|
| Дзе жыве птушка? | *у (гняздо)* |
| Дзе плавае рыба? | *у (вада)* |
| Дзе расце рэдзька? | *на (града)* |

Запішыце сказы. Растлумачце правапіс ***дз***.



**26.** Прачытайце. Спішыце, устаўце ***д*** або ***дз***.

— Калі ласка, ..якуй, добры ..ень, —
ветлівыя словы чую ад лю..ей.

*Т. Кляшторная.*

Падкрэсліце ***дз*** разам з наступнай літарай.

**27.** Паслухайце верш. Які гук прапушчаны ў словах? Якімі літарамі трэба яго абазначыць?

Лыч задзёр у неба дзік:
дзіва — хо..іць мала..ік.
Дзік па небе не ха..іў —
дзік на градах насля..іў.

*М. Чарняўскі.*



Спішыце другі сказ, устаўце патрэбныя літары.

## Будзьце ўважлівыя!

| **па-беларуску** | **па-руску** |
| --- | --- |
| ты́дзень | неде́ля |
| нядзе́ля | воскресе́нье |

**28.** Дапоўніце сказ патрэбным словам. Назавіце словы з гукам [дз’].

Сем дзён — гэта ... .

Запішыце сказ пад дыктоўку настаўніка. Падкрэсліце ў словах літары, якія пішуцца пасля спалучэння літар ***дз***.

Рм **29.** Дапоўніце сказы патрэбнымі словамі. Для гэтага перакладзіце дадзеныя рускія словы на беларускую мову.

Цэлы ... (*неделя*) Міколка ва ўсім дапамагаў маме і тату. Яны былі ўдзя́чныя сыну. Наступіла ... (*воскресенье*). Бацькі́ вырашылі схадзіць з сынам у кіно.



***удзя́чныя*** — рус. *благода́рные*

Назавіце словы з гукам [дз’] і запішыце іх. Падкрэсліце ***дз*** разам з наступнай літарай.

**30.** Прачытайце назвы дзён тыдня. Размясціце іх па парадку.

Аўторак, сера..а, паня..елак, чацвер, субота, пятніца, ня..еля.

Спішыце. Устаўце ***д*** або ***дз***, растлумачце іх правапіс.

**31.** Прачытайце. Змяніце словы ў дужках так, як патрабуе сэнс.




Цыбуля расце на *(агарод)*.
Грушы растуць у *(сад)*.
Вялікі завод ёсць у *(горад)*.
Саша катае брата на *(веласіпед)*.

Запішыце адзін сказ на выбар. Назавіце слова з гукам [дз’].

**32.** Разгадайце рэбус. Дапоўніце сказы патрэбнымі словамі.



На лаўцы ся..іць ... .
На гра..е расце ... .

~~ба~~ = цы

Які гук вымаўляецца ў словах на месцы пропускаў? Якія літары трэба ўставіць у словы?

Запішыце сказ са слоўнікавым словам.



**33.** Прачытайце.

Дзве сяброўкі на гра..е
скачуць спрытна, як ні..е.
Хто прагоніць Зоську, Юльку?
Патапталі ўсю цыбульку.

*Л. Фарботка.*

Спішыце першы сказ. Устаўце патрэбныя літары, растлумачце іх правапіс.

# Зычныя гукі [т]—[ц’]

**34.** Прачытайце загадкі, адгадайце. Знайдзіце словы з гукамі [т], [ц’]. Вымавіце словы.



1. Жалезны конь, у жываце агонь, есці не просіць, арэ, жне і косіць.



2. Не матор, а гудзіць, не самалёт, а ляціць, не змяя, а джаліць.

Спішыце адну загадку. У дужках запішыце адгадку. Падкрэсліце ***ц*** разам з наступнай літарай.

**35.** Вымавіце словы парамі.

вертале**т** — на вертале**це**
бало**та** — на бало**це**
біле**т** — на біле**це**
рабо**та** — на рабо**це**
кар**та** — на кар**це**

Якія гукі абазначаюць выдзеленыя літары? Якія з гукаў цвёрды, а які мяккі?

Гук [т] цвёрды. Ён абазначаецца на пісьме літарай ***т***. Пасля літары ***т*** пішуцца ***а, о, у, э, ы***: *хата, каты́*.

Гук [ц’] мяккі. Ён абазначаецца на пісьме літарай ***ц***. Пасля літары ***ц*** пішуцца ***е, ё, ю, я, і, ь***: *у хаце, коцік*.

**36.** Прачытайце сказы. Выпішыце выдзеленыя словы парамі. Цвёрдыя ці мяккія гукі абазначаюць літары ***т, ц*** у гэтых словах?

Тата ўзяў білеты **на самалёт**. **На самалёце** мы паляцім у госці да цёткі.

У Салігорску ёсць незвычайная саляная **шахта**. **У** гэтай **шахце** лечаць людзей ад розных хвароб.

**37.** Прачытайце. Назавіце словы, у якіх ёсць гук [т] або [ц’]. Як гэтыя гукі абазначаюцца на пісьме?

Села **Света** ў **ракету**,
абляцела вакол свету,
глянула на родны край —
каго хочаш выбірай.

*У. Мацвеенка.*

Вусна змяніце выдзеленыя словы так, каб замест гука [т] вымаўляўся [ц’].

Якія словы ў лічылцы адрозніваюцца адным гукам?

Рм Калі вы карыстаецеся лічылкамі? Разлічыцеся пры дапамозе гэтай лічылкі.



**38.** Прачытайце скорагаворку. Назавіце словы з гукамі [т], [ц’].

*Коцік-каток ніпак клубок закаціў у куток.*

Спішыце. Падкрэсліце ***ц*** разам з наступнай літарай адной рыскай.

**39.** Паслухайце скорагаворку. Назавіце словы з гукам [ц’]. Прачытайце.

— Цэцярук, цэцярук, дзе твая цяцера?
— Мая цяцера цецеранятам **цеста** месіць.

*В. Вітка.*

Змяніце выдзеленае слова так, каб замест гука [т] вымаўляўся [ц’]. Запішыце гэтыя словы.

**40.** Прачытайце тэкст. Якія прыметы вясны аўтар апісвае ў творы?

Засмяялася ў небе сонейка. Забу́лькалі пад снегам ручаі. На таполі замахаў крыламі чорны грак.

Снег у полі па..ямнеў і асе́ў. На ўзгорках чарнею..ь прата́лінкі. На дрэвах набухаю..ь пупышкі. Весела звіня..ь сінічкі. Звонка грукае дзя..ел на старой асіне.

*В. Кастручын.*



***прата́лінка*** *— месца, дзе растаў снег і адкрылася зямля*
***асе́ў*** *— апусціўся слоем*

Вымавіце словы з прапушчанымі літарамі. Які гук чуецца на месцы пропускаў? Якой літарай яго трэба абазначыць?

Спішыце сказы, у якіх ёсць словы з прапушчанымі літарамі.

Падкрэсліце ***ц*** разам з наступнай літарай.

## Гаварыце правільна

Тэлефо́н, тэлеві́зар, камп'ю́тар.

Рм **41.** Прачытайце. Вусна дапоўніце сказы патрэбнымі словамі.

Увечары ўсе адпачываюць. Дзядуля з бабуляй глядзяць ... . Мама размаўляе па ... . А Цімоша з татам сядзяць за ... .





Словы для даведкі: *камп'ютарам, тэлевізар, тэлефоне.*



**42.** Прачытайце загадку. З «рассыпаных» складоў састаўце і запішыце слова-адгадку.

Праз палі, масты, лясы
ля..яць словы-галасы.
Дзякуючы правадам
кажу..ь тут, а чую..ь там.

*У. Мацвеенка.*

ле
тэ
фон

Якія літары трэба ўставіць у словы? Выпішыце словы з прапушчанымі літарамі. Падкрэсліце ***ц*** разам з наступнай літарай.

### Гаварыце правільна

старэйшы брат — старэйшы за сястру
малодшы брат — малодшы за сястру

Рм **43.** Вусна раскажыце пра свайго брата або сястру. Карыстайцеся словамі ў дужках.

У мяне ёсць (старэйшы, малодшы) брат. Я (старэйшы, старэйшая, малодшы, малодшая) за брата на ... (год, гады́, гадоў).

У мяне ёсць (старэйшая, малодшая) сястра. Я (старэйшы, старэйшая, малодшы, малодшая) за сястру на ... (год, гады́, гадоў).




Якое слоўнікавае слова сустрэлася ў сказах?

**44.** Прыдумайце новыя словы па ўзоры. Запішыце словы, якія ў вас атрымаліся.

Узор: *брат — брацік*.

самалёт — ...
верталёт — ...
білет — ...
салдат — ...

**Рм** Дапоўніце сказы словамі, якія падыходзяць па сэнсе.

У Тані ёсць маленькі ... . Дзяўчынка зрабіла яму папяровы ... .

Запішыце сказы.

**45.** Прачытайце. Якія літары трэба ўставіць у словы? Растлумачце іх правапіс.

Змайстраваў старэйшы **брат**
мне драўляны **самакат.**
Усміхнуўся, кажа ён:
— Ну, давай, бяры разгон!
Хоць імча..ь і страшнавата,
не магу падво..іць брата.

*М. Мятліцкі.*

Выпішыце словы з прапушчанымі літарамі. Устаўце літары ***д*** або ***дз***, ***т*** або ***ц***.

Вусна змяніце выдзеленыя словы так, каб замест гука [т] вымаўляўся [ц’].

**Рм** Раскажыце, як вы клапоціцеся пра свайго брата або сястру.

**46.** Паслухайце верш. Што здарылася з паштальёнам? Як дзеці дапамаглі яму? Падумайце, хто яшчэ быў удзячны дзецям, акрамя паштальёна.

## Падмянілі паштальёна

Захварэў наш паштальён
і не носі..ь **пошты** ён.
Стаў у мамы я прасі..ь:
— Можна пошту мне насі..ь?
— Што ж, нясі, — сказала мама.
Вучні класа ўсе таксама
пошту па чарзе насілі,
паштальёна падмянілі.
Акрыяў паштальён,
быў нам вельмі ўдзячны ён.

*А. Дзержынскі.*



Якія літары трэба ўставіць у словы? Якія гукі абазначаюць прапушчаныя літары? Змяніце выдзеленае слова так, каб замест гука [т] вымаўляўся [ц’].

Спішыце першы сказ, падкрэсліце літару, якую ўставілі.

**47.** Прачытайце прыказку. Чаму так гавораць? Растлумачце правапіс выдзеленых літар. Запішыце прыказку пад дыктоўку настаўніка.

Зробіш людзям дабро — і **т**абе адго**дзяць**.



***адгадзíць*** — рус. *отблагодари́ть, отплати́ть*



**48.** Прачытайце прыказкі. Што лягчэй зрабіць: паабяцаць ці выканаць? Якія літары трэба ўставіць у словы? Растлумачце іх правапіс.

Не так лёгка зрабі..ь, як сказа..ь.
Языком мало..ь — не дровы кало..ь.

Спішыце прыказкі. Падкрэсліце літары, якія ўставілі ў словы.

## Няпарныя цвёрдыя зычныя гукі. Правапіс слоў з імі

**49.** Прачытайце словы.

**Ж**ыта, **дж**ала, **р**аніца, **ч**апля, **ш**эрсць, **ц**ырк, **ж**ук.

Выразна вымавіце першы гук у кожным слове. Ён цвёрды ці мяккі?

Якія літары пішуцца пасля выдзеленых літар?

Цвёрдыя зычныя гукі [р], [ж], [ш], [ч], [дж], [ц] не маюць парных мяккіх гукаў.

Пасля літар ***р, ж, ш, ч, ц*** і спалучэння літар ***дж*** пішуцца ***а, о, у, ы, э***: ***шафа, жолуд, рука, цыбуля, рэха, джэм.***

**50.** Разгледзьце стужку гукаў. Якія гукі толькі цвёрдыя і ў рускай, і ў беларускай мовах?

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| [р] | [ж] | [ш] | [ч] | [дж] | [ц] |

**51.** Дапоўніце словы ў слупках патрэбным складам ці літарай. Што абазначаюць гэтыя словы?

| ба | ка | г |
|---|---|---|
| ..ян | дуд.. | ..ітара |
| ..рабан | скрып.. | ..услі |
| ..лалайка | жалей.. | |

Выпішыце словы з няпарнымі цвёрдымі зычнымі гукамі. Назавіце гэтыя гукі. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць няпарныя цвёрдыя зычныя гукі і галосныя пасля іх.

**52.** Прачытайце верш. Сачыце за вымаўленнем няпарных цвёрдых гукаў [ч], [р].

### Дударык

Сеў у полі на каменьч..ку,
узяў дудку на р..меньч..ку.
Ду-ду-ду — дуда гудзе,
полем водгалас ідзе.

*В. Вітка.*

Спішыце першы сказ. Падкрэсліце літары, якія ўставілі, растлумачце іх напісанне.

**53.** Прачытайце верш. Ці правільна зайчык вывучыў ноты? Што выклікала ў вас усмешку?



### Зайчыкавы ноты

У музычнай школе
**зайчык** дзень **прабыў**.
— До-рэ-мі-фасоля! —
ноты ён **вучыў**.
Потым ля загона
рваў стручкі за трох.
І спяваў натхнёна:
— До-рэ-мі-**гарох**!

*В. Гардзей.*

Выпішыце выдзеленыя словы. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць няпарныя цвёрдыя зычныя гукі і галосныя пасля іх.



**54.** Спішыце скорагаворку. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць няпарныя цвёрдыя зычныя гукі.

Б'е баран у барабан,
барабаншчык наш баран.

*А. Вольскі.*

**55.** Прачытайце скорагаворкі. Навучыцеся правільна вымаўляць іх.

Цэлы месяц міла-лю́ба
грэлася пад сонцам бульба.

Шэпча, шэпча небыліцы
ў чэрвені жыта пшаніцы.

За шырокім шэрым тынам
узрушана шуміць ляшчына.

*С. Шах.*



***тын*** — рус. *забо́р*
***узру́шана*** — *усхваля́вана*

Выпішыце словы з няпарнымі цвёрдымі зычнымі гукамі [ж], [ш], [ц].

Падкрэсліце літары, якія абазначаюць няпарныя цвёрдыя зычныя гукі і галосныя пасля іх.

## Будзьце ўважлівыя!

У беларускай мове пішам:

| | | |
|---|---|---|
| **жы**во́т | **шы́**шка | **цэ**ме́нт |
| **жэ**ле́ | **шэ**сць | **цэ**х |

**56.** Дапоўніце словы ў слупках патрэбнымі спалучэннямі літар.

| | |
|---|---|
| **жы шы** | **жэ шэ цэ** |
| ..та | ..рань |
| ..пшына | ..ле |
| каню..на | ..гла |



***шэ́рань*** — рус. *и́ней*
***цэ́гла*** — рус. *кирпи́ч*

Дапоўніце сказ словамі з першага слупка і запішыце яго.

..., ..., ... — гэта расліны.

**57.** Паслухайце тэкст. З чаго раней выраблялі ручнікі? Як іх упрыгожвалі?

Ручнікамі карыстаюцца на Беларусі з даўніх часоў. Асноўнымі іх колерамі заўсёды былі белы і ч..рвоны. Раней ручнікі ткалі з лёну на кроснах, упрыгожвалі выш..ўкай, кару́нкамі. Імі карысталіся кож-



ны дзень. Без прыгож..х ручнікоў не абыходзілася ніводная важная падзея ў жыцці ч..лавека.



***кро́сны*** — *ткацкі станок*
***кару́нкі*** — рус. *кру́жево*

Якія літары трэба ўставіць у словы? Растлумачце іх правапіс.

Выпішыце словы з прапушчанымі літарамі. Падкрэсліце літары, якія ўставілі.

 *ручні́к*

**58.** Прачытайце словы. Якімі з іх можна апісаць ручнік?

Прыгож.., выш..ты, ц..ментны, ч..сты, ільняны, гарач.. .

Якія літары трэба ўставіць у словы? Растлумачце іх правапіс.

**59.** Прачытайце верш. Для чаго мы выкарыстоўваем ручнік? Чаму паэтэса параўноўвае сонейка з ручніком?



## Залаты ручнік

Росныя травінкі
падстаўляюць спінкі
залатому ручніку —
сонейку.

*А. Кобец-Філімонава.*

**Рм** Дапоўніце сказы слоўнікавым словам. Запішыце.

На кухні матуля павесіла прыгожы … . Гэты … вышывала мая бабуля.

Падкрэсліце літары, якія абазначаюць няпарныя цвёрдыя зычныя гукі і галосныя пасля іх.

**60.** Прачытайце тэкст. Як вы віншуеце матуль з днём нараджэння?

Наташ..на бабуля выш..вае прыгож..я абрусы, ручнікі. Яна навучыла і ўнучку. Дзяўчынка выш..вае льняную сурвэтку. Наташа рыхтуе падарунак матулі да дня нараджэння.



***абру́с*** — рус. ***ска́терть***

Растлумачце правапіс прапушчаных літар. Спішыце сказы, у якіх ёсць словы з прапушчанымі літарамі. Падкрэсліце літары, якія ўставілі.



**61.** Прачытайце. Чаму так гавораць?

Чуж..м розумам не праж..веш.
Шануй старэйш..х, барані малодш..х.

Растлумачце правапіс прапушчаных літар. Спішыце. Падкрэсліце літары, якія ўставілі.

**62.** Прачытайце словы з першага слупка. Які гук абазначаюць выдзеленыя літары?

| | |
|---|---|
| **ц**уд | *біле**т** — біле**ц**ік* |
| **ц**ырк | кус**т** — ... |
| **ц**ацка | бан**т** — ... |

Прачытайце словы з другога слупка. Які гук абазначаюць выдзеленыя літары?

Змяніце словы з другога слупка па ўзоры. На які гук змяняецца [т] пры змякчэнні?

**У беларускай мове ёсць цвёрды гук [ц] і мяккі гук [ц']. Яны не ўтвараюць пары па цвёрдасці-мяккасці.**

**63.** Прачытайце. Выпішыце словы, у якіх літара ***ц*** абазначае няпарны цвёрды зычны гук. Падкрэсліце літары, якія пішуцца пасля ***ц***.

Сцяна, цукар, вецер, раніца, касцёр, цэгла, сцюжа, цымбалы, цішыня.

Сярод слоў знайдзіце назву музычнага інструмента. Як называюць чалавека, які іграе на цымбалах?

**64.** Прачытайце верш.

### Жа́біны канцэрты

На балоце, пры рацэ,
дзіўны хор дае канцэрт.
— Ква-ква-ква! —
пяе балота.
Не канцэрт — адна смяхота!
— Ква-ква-ква! —
гайдае долы.
Слухайце КВАнцэрт вясёлы.

*К. Камейша.*

Выпішыце ў адзін слупок словы з няпарным цвёрдым гукам [ц], а ў другі — словы з мяккім гукам [ц’].

**65.** Прачытайце. Назавіце словы з мяккім гукам [ц’].

Вось загадка для Андрэйкі:
там і шпалы ёсць, і рэйкі,
малаточкі па іх б’юць
і мелодыю вядуць.

*У. Мацвеенка.*



Запішыце загадку разам з адгадкай. Падкрэсліце слова з цвёрдым гукам [ц].

**66.** Прачытайце прыказку. Якому чалавеку можна лёгка ўсё растлумачыць?

Разумнай галоўцы досыць два слоўцы.



***до́сыць** — дастаткова*

Запішыце прыказку пад дыктоўку настаўніка. Падкрэсліце літару, якая абазначае мяккі гук [ц’], адной рыскай. Літару, якая абазначае няпарны цвёрды гук [ц], падкрэсліце дзвюма рыскамі.



**67.** Прачытайце. Спішыце.

*Маме падарунак —
моцны пацалунак,
сястры — усмешка,
брату — пацешка.*

*Н. Галіноўская.*

Падкрэсліце літару ***ц***, якая абазначае мяккі гук [ц’], адной рыскай. Літару ***ц***, якая абазначае няпарны цвёрды [ц], падкрэсліце дзвюма рыскамі.

# Звонкія і глухія зычныя гукі. Іх абазначэнне на пісьме

## Успомніце з урокаў рускай мовы

Якія зычныя гукі з'яўляюцца звонкімі, а якія глухімі? Прывядзіце прыклады зычных гукаў, якія вымаўляюцца з голасам і шумам; толькі з шумам.

**68.** Паслухайце словы.

**б**орт — **п**орт
**з**ала — **с**ала
**дз**ерці — **ц**ерці
**ж**ар — **ш**ар
**д**ачка — **т**ачка
**Дж**эк — **ч**эк

Прачытайце словы парамі. Якія зычныя гукі ў пачатку слова вымаўляюцца звонка, а якія глуха?



Большасць звонкіх і глухіх зычных гукаў утвараюць пары:

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| [б] | [б'] | [г] | [г'] | [д] | [дз'] | [з] | [з'] | [ж] | [дж] |
| [п] | [п'] | [х] | [х'] | [т] | [ц'] | [с] | [с'] | [ш] | [ч] |

**69.** Разгледзьце стужку гукаў. Назавіце звонкія і глухія зычныя гукі, якія ўтвараюць пары.

**70.** Замяніце ў пачатку слоў звонкія гукі на парныя глухія. Запішыце словы.

Біць, дзень, баліць, борт, брама, дом, заліць, Дзіма.



***бра́ма*** — рус. *воро́та*

Падкрэсліце літары, якія абазначаюць парныя глухія гукі ў пачатку слоў.

**71.** Прачытайце сказы. Выпішыце пары слоў, якія адрозніваюцца парнымі звонкімі і глухімі зычнымі.

Дзядзька Глеб малоціць хлеб *(Н. Сторажава)*.
У гарачы дзень мы хаваемся ў цень *(Н. Сторажава)*.
Ля вадзіцы блізка лёгка скача пліска *(С. Шушкевіч)*.
Наша Маша мёд на булку мажа.

Падкрэсліце літары, якімі адрозніваюцца гэтыя словы.

**72.** Паслухайце верш. Якое свята мы адзначаем у пачатку вясны? Чаму вясна ў Надзі атрымалася падобнай на матулю?

Надзя ў альбоме вясну малявала —
гожая дужа вясна паўставала.
Вобраз вясны атрымаўся жаночы:
мілая ўсмешка, чароўныя вочы,
кропкі вяснушак ля ясных вачэй,
шчокі палаюць за сонца ярчэй,
ну а на шчоках — вясёлыя ямачкі, —
Надзя пісала малюнак свой з мамачкі.

*В. Жуковіч.*



Спішыце першы сказ. Якія гукі абазначаюць выдзеленыя літары? Назавіце парныя ім звонкія або глухія зычныя гукі.

**Рм** Прачытайце словы з верша, якія дапамагаюць апісаць Надзіну маму. Апішыце сваю матулю.

**73.** Прачытайце прыказкі. Чаму так гавораць? Якая з прыказак лішняя? Запішыце яе.

Матуліны рукі заўсёды мяккія.

Родная зямля — маці, чужая старана — мачыха.

Дзе маці нарадзіла, там і радзіма.

Назавіце парныя звонкія або глухія зычныя гукі ў словах.



**74.** Прачытайце скорагаворку. Навучыцеся хутка і правільна вымаўляць яе. Пра якую сайку гаворыцца ў скорагаворцы?

*Знайшоў зайчык сайкі акрайчык. Цешыўся зайка: сайка-кусайка.*

*М. Чарняўскі.*

Спішыце. Падкрэсліце пару слоў, якая адрозніваецца парнымі звонкімі і глухімі гукамі. Назавіце гэтыя гукі.

**75.** Прачытайце словы. Правільна вымавіце гукі на месцы выдзеленых літар.

[б] [п]
гры**б**ы — гры**б**

[п] [б]
ры**б**ка — ры**б**а

[д] [т]
пла**д**ы — пло**д**

[т] [д]
гра**д**ка — гра**д**а

[ж] [ш]
на**ж**ы — но**ж**

[ш] [ж]
лы**ж**ка — лы**ж**ачка

[з] [с]
гарбу**з**ы — гарбу**з**

[с] [з]
ка**з**ка — ка**з**ачка

Як вымаўляюцца звонкія зычныя гукі перад галоснымі? Як вымаўляюцца гэтыя зычныя на канцы слоў і перад глухімі зычнымі?

Для праверкі слоў з парнымі звонкімі і глухімі зычнымі на канцы і ў сярэдзіне слова трэба змяніць слова так, каб пасля зычнага стаяў галосны гук: ***сцежка — сцежачка, кашка — каша.***

**76.** Прачытайце словы. Якія літары трэба пісаць на месцы пропускаў? Чаму? Спішыце пары слоў, устаўце прапушчаныя літары.

| | |
|---|---|
| халады́ — хола.. | арэхі — арэ.. |
| чыжы́ — чы.. | браты́ — бра.. |
| маразы́ — маро.. | кашы́ — ко.. |

**77.** Прачытайце верш. Як хлопчык дапамагаў маме пячы пірог?



З мамай мы **піро*(г/х)*** пяклі  
так старанна, як маглі.  
Маме я дапамагаў:  
ёй рэцэпт услых чытаў.  
**Лё*(г/х)*** на стол піро*(г/х)* духмяны,  
зверху — зорачкі-бананы.  
Маме зноў я **дапамо*(г/х)*** —  
першым каштаваў піро*(г/х)*.

*Т. Сучкова.*

Вусна змяніце выдзеленыя словы так, каб пасля зычнага стаяў галосны гук.

Выпішыце гэтыя словы, устаўце патрэбныя літары і падкрэсліце іх.

## Будзьце ўважлівыя!

| у рускай мове | | у беларускай мове | |
|---|---|---|---|
| [г] | [к] | [г] | [х] |
| пирога́ — | пиро́г | пірага́ — | піро́г |

**78.** Прачытайце прыказкі. Чаму так гавораць?

Пакуль **піро*(г/х)*** не спёкся — гасцей не заві.

Дарагі не **абе*(д/т)***, а **прыве*(д/т)***.

Вусна змяніце выдзеленыя словы так, каб пасля зычнага стаяў галосны гук. Якія літары трэба ўставіць у словы?

Запішыце другую прыказку пад дыктоўку.

**79.** Якія словы з парнымі звонкімі і глухімі зычнымі на канцы трэба дапісаць?

| | | | |
|---|---|---|---|
| дрэва | д | .. | .. |
| 12 месяцаў | г | .. | .. |
| жывёла | к | .. | .. |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| г | .. | .. | .. | .. | птушка |
| г | а | .. | .. | .. | памяшканне для машын |
| г | а | р | .. | .. | расліна |

Запішыце словы. Вусна падбярыце да іх праверачныя.

**80.** Прачытайце спалучэнні слоў. Якія літары трэба ўставіць у словы замест пропускаў? Вусна падбярыце праверачныя словы.



белы гры..*(б/п)*

захварэў на гры..*(б/п)*





смачны пло..*(д/т)*

драўляны пло..*(д/т)*





ле..*(з/с)* на дрэва

густы ле..*(з/с)*





шэры ко..*(д/т)*

складаны ко..*(д/т)*





**81.** Прачытайце. Вусна падбярыце праверачныя словы.

Блішчаць расою ле*(з/с)* і долы,
у чырвані гарыць усхо*(д/т)*.
Прачнуліся пад спеў вясёлы
і лу*(г/х)*, і са*(д/т)*, і агаро*(д/т)*.

*А. Вольскі.*

Спішыце, устаўце патрэбныя літары.

**82.** Прачытайце словы. Якія літары трэба ўставіць на месцы пропуску? Чаму?

грыбы — гры..кі
лёгенькі — лё..кі

дзядзечка — дзя..ька
бяроза — бяро..ка

радок — ра..кі
піражок — піра..кі

Спішыце пары слоў, устаўце прапушчаныя літары і падкрэсліце іх.

**83.** Прачытайце верш. Вусна змяніце выдзеленыя словы так, каб пасля зычнага стаяў галосны гук.

Я стаю на **бера*(ж/ш)*ку**,
а рачулка льецца.
**Ры*(б/п)*ка** плавае ў вадзе,
сонейка смяецца.

*У. Карызна.*

Спішыце. Устаўце ў словы патрэбныя літары.

**84.** Дапоўніце словы прапанаванымі літарамі.

| | | |
|---|---|---|
| | ш | |
| мі | .. | ка |
| | с | |

| | | |
|---|---|---|
| | з | |
| ка | .. | ка |
| | с | |

| | | |
|---|---|---|
| | д | |
| ра | .. | кі |
| | ж | |

| | | |
|---|---|---|
| | ш | |
| ко | .. | ка |
| | с | |

| | | |
|---|---|---|
| | ж | |
| но | .. | ка |
| | ч | |

Якія гукі абазначаюць устаўленыя літары?

Вусна змяніце словы так, каб пасля зычнага стаяў галосны гук.

**85.** Прачытайце прыказкі. Чаму так гавораць? Назавіце прыказкі, блізкія па сэнсе.

У студню вады не льюць, а ў **лес** дроў не вязуць.

Да чыстай крыніцы **сцежка** ўтоптана.

У крыніцу не носяць вадзіцу.



***сту́дня — калодзеж***

Назавіце ў выдзеленых словах літары, напісанне якіх трэба правяраць.



**86.** Адгадайце загадку. Спішыце. Устаўце патрэбныя літары, вусна падбярыце праверачныя словы.



Па лу*(ж/ш)*ку ідзе цыбаты,
уцякаюць жабяняты.
Уцякаюць жа*(б/п)*кі,
аж мільгаюць ла*(б/п)*кі.

*А. Дзеружынскі.*

Падкрэсліце літары, якія ўставілі.



Звонкія зычныя [й], [ў], [р], [м], [м’], [н], [н’], [в], [в’], [л], [л’] не маюць парных глухіх.
Глухія зычныя [к], [к’], [ф], [ф’] не маюць парных звонкіх.

**Будзьце ўважлівыя!**

У беларускай мове

| звонкія | глухія |
| --- | --- |
| [в] | [ф] |
| [в’] | [ф’] |

**не ўтвараюць пары.**

**87.** Прачытайце верш. Якія змены адбываюцца ў прыродзе з надыходам вясны? Якія фарбы выкарыстоўвае Красуня-Вясна?



Спытала Ганулька ў кветак і траў:
— Скажыце, хто **лу*(г/х)*** так прыгожа прыбраў?
Гаворыць дзяўчынцы вятроў гамана:
— Лугамі хадзіла Красуня-Вясна!

Спытала Ганулька ў шумных палёў:
— Хто фарбы такое пяшчоты знайшоў?
І чуе ў **адка(з/с)** зноў такое яна:
— Палямі хадзіла Красуня-Вясна!

*М. Мятліцкі.*



***гамана́* — *шум***

У другім слупку знайдзіце словы з няпарнымі глухімі зычнымі гукамі.

Вусна падбярыце да выдзеленых слоў праверачныя словы. Выпішыце выдзеленыя словы, устаўце патрэбныя літары.




**88.** Прачытайце словы. Якім можа быць адказ вучня?

Правільны, няправільны, блізкі, прыгожы, поўны, вузкі.

**Рм** Дапоўніце сказ адным са слоў.

Настаўніца пахваліла Кірыла Пятрова за ... адказ.

Запішыце сказ. Падкрэсліце ў словах літары, якія абазначаюць няпарныя звонкія зычныя гукі.

**89.** Прачытайце тэкст. Якія кветкі першымі расцвітаюць вясной?

Яшчэ ляжыць снег у лесе, але ўжо дзенідзе зелянее траўка. На ўскрайку лесу глянула сіненькім вочкам пралеска. Яна самая першая кветка вясны.

Назавіце словы з няпарнымі глухімі зычнымі гукамі. Назавіце ў словах літары, напісанне якіх трэба праверыць.

**90.** Замяніце выдзеленыя словы словамі з процілеглым значэннем.

*горкі перац — салодкі перац*
**густы** лес — ...
**шырокая** рака — ...

Запішыце новыя спалучэнні слоў. Падкрэсліце літары, напісанне якіх трэба праверыць.



**91.** Спішыце, устаўляючы патрэбную літару.

Гром на голы ле*(з/с)* — вясна халодная.

Падкрэсліце літары, якія абазначаюць няпарныя звонкія зычныя гукі.

## Падоўжаныя зычныя гукі. Іх абазначэнне на пісьме

**92.** Параўнайце вымаўленне слоў. У якіх словах гукі вымаўляюцца падоўжана?

жы**ць** — жы**ццё**
кры**л**о — кры**лл**е
кола**с** — кало**сс**е
но**ч** — но**чч**у

Як перадаецца на пісьме падоўжанае вымаўленне зычных гукаў?

Гукі [ж], [ш], [ч], [з’], [с’], [л’], [н’], [ц’], [дз’] паміж галоснымі могуць вымаўляцца падоўжана. Падоўжанае вымаўленне гукаў на пісьме перадаецца дзвюма літарамі: *Пале**сс**е, збо**жж**а, заці**шш**а.*

**93.** Паслухайце тэкст. Назавіце прыметы вясны. Выпішыце словы з падоўжанымі зычнымі гукамі.

### Надыход вясны

Ва ўсім адчуваўся надыход вясны. Сонечнае праменне саграваала зямлю. З далёкага падарожжа вярнуліся шпакі. Усё наваколле патанула ў птушыных спевах.

**94.** Дапоўніце сказы патрэбнымі словамі з правага слупка.

| | |
|---|---|
| Сава вылятае на паляванне ... . | *ноччу* |
| Пчолы жывуць у ... . | *зацішша* |
| Перад навальніцай бывае ... . | *вуллі* |

Назавіце падоўжаныя зычныя гукі ў словах.

Спішыце, падкрэсліце літары, якімі яны абазначаюцца.

**95.** Прачытайце прыказкі. Што з'яўляецца сапраўдным багаццем чалавека?

Навука — найлепшае бага*(ц/цц)*е.

Не ганарыся зва*(н/нн)*ем, а ганарыся ведамі.

Назавіце словы з падоўжанымі зычнымі гукамі. Выберыце літары, якія трэба ўставіць у словы.

Запішыце словы з падоўжанымі зычнымі.



**96.** Прачытайце. Адгадайце загадку. Выберыце літары, якія трэба ўставіць у слова.

Стракатуха прыляцела
і на даху дома села.

Не жы*(ц/цц)*ё — адна маро́ка,
як пачне трашчаць ... .

*Н. Парукаў.*





***маро́ка*** *— нешта блы́танае, незразуме́лае, клапотнае*

Запішыце апошні сказ загадкі разам з адгадкай. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць падоўжаны гук [ц’].

**97.** Вымавіце словы.

стагоддзе     паўгоддзе     суддзя

Які гук вымаўляецца падоўжана? Як падаўжэнне гука [дз’] перадаецца на пісьме?

Запішыце словы. Падкрэсліце літары, якімі на пісьме абазначаецца падоўжаны гук [дз’].

Падоўжаны гук [дз’] на пісьме абазначаецца спалучэннем літар ***ддз***: ***разводдзе, ладдзя.***

**98.** Прачытайце тэкст. Устаўце патрэбныя словы. Назавіце падоўжаныя зычныя гукі ў словах.



**Трашчыць ... . З ...** прадзіраецца з гушчару нешта вялікае, дужае. **Выходзіць зубр і спыняецца ў ... .** Вялікая галава, шырокія грудзі здзіўляюць сваёй ... і магутнасцю *(Паводле В. Вольскага)*.

Словы для даведкі: *задуменні, галлё, фырканнем, веліччу*.

Запішыце выдзеленыя сказы, устаўляючы патрэбныя словы. Падкрэсліце літары, якімі абазначаюцца падоўжаныя зычныя гукі на пісьме.

**99.** Вусна дапоўніце сказы патрэбнымі словамі.

У лесе шмат сухога ... . Зялёным лісцем пакрываюцца ... . *(галля, галінкі)*
У гушчар не пранікае сонечнае ... . Першы сонечны ... асвяціў палянку. *(праменне, прамень)*

Назавіце ў словах падоўжаныя зычныя гукі.

**100.** Назавіце адным словам. Запішыце гэтыя словы.

| | |
|---|---|
| Плады, насенне некаторых раслін. | *ла..я* |
| Арыфметычнае дзеянне. | *падаро..а* |
| Домікі для пчол. | *лічэ..е* |
| Сто гадоў. | *ву..і* |
| Паездка па розных краінах. | *стаго..е* |
| Шахматная фігура. | *збо..а* |

ДДЗ НН ЖЖ ЛЛ



**101.** Прачытайце. Выберыце літары, якія трэба ўставіць у словы.

Ох, і цёмна ж но*(ч/чч)*у ў пушчы:
ельнік стаў яшчэ гусцей.
Лось га*(л/лл)*ё сухое трушчыць
і чапляецца часцей.

*С. Грахоўскі.*



Спішыце апошні сказ.

## Будзьце ўважлівыя!

| у рускай мове | у беларускай мове |
| --- | --- |
| | пішам |
| белорусский класс | беларускі клас |

**102.** Прачытайце тэкст. Якія літары трэба ўставіць у словы? Запішыце гэтыя словы. Растлумачце іх правапіс.

На ўроках белару..кай мовы мы вучым новыя словы. На матэматыцы займаемся лічэ..ем. На ўроках фізкультуры вучні нашага кла..а любяць гуляць у валейбол. Су..ёй бывае настаўнік фізкультуры.

А самы вясёлы час у школе — гэта перапынак.

**Рм** Раскажыце, чым вы займаецеся на іншых уроках у школе.

Словы з падоўжанымі зычнымі гукамі можна пераносіць на наступны радок так: *гал-лё, га-ллё*.

**103.** Паслухайце верш. Выберыце літары, якія трэба ўставіць у словы.

На лужку зарэчным гра*(н/нн)*е
ды вясёлае гуля*(н/нн)*е:
сёння нараджэ*(н/нн)*я дзень
адзначае авадзéнь.

*С. Бестава.*

Выпішыце словы з падоўжанымі зычнымі гукамі, падзяліце іх для пераносу.

**104.** Разгадайце рэбус.




ВО  КА

Дапоўніце сказы неабходным словам.

У падручніка па **чыта*(н/нн)*і** прыгожая ... . Гэту ... **Та*(ц/цц)*янка** выбірала разам з матуляй.

Спішыце адзін сказ на выбар. Выдзеленае слова падзяліце для пераносу.

**105.** Прачытайце небыліцу. Расстаўце словы на свае месцы.



У гародзе цвіце рак,
пад карчом схаваўся мак.
З норкі пазірае мішка.
З вуллёў мёд цягае мышка.

*Т. Тарасава.*







Назавіце слова з падоўжаным зычным гукам.

У якіх словах трэба праверыць правапіс парных звонкіх і глухіх зычных? Вусна падбярыце да іх праверачныя словы.



**106.** Прачытайце. Выберыце літары, якія трэба ўставіць у слова.

Сакавік — месяц абуджэ*(н/нн)*я прыроды ад зімовага сну.

Спішыце. Слова з падоўжаным зычным гукам падзяліце для пераносу.

## Раздзяляльныя знакі — апостраф (’) і мяккі знак (ь)

**107.** Параўнайце вымаўленне слоў.

пяро — пер’е  
верабей — вераб’і

сям’я  
куп’ё



***куп’ё*** — рус. *ку́пчики*

У якіх словах паміж зычным і галосным вымаўляецца гук [й’]? Выпішыце гэтыя словы. Падкрэсліце літары, перад якімі пішацца апостраф.

Апостраф пішацца пасля літар, якія абазначаюць цвёрдыя зычныя гукі, перад літарамі ***е, ё, ю, я, і***, калі паміж зычным і галосным вымаўляецца гук [й’]:

[й’э][й’у] [й’а] [й’і]

*надвор’е, п’ю, аб’ява, вераб’і.*

**108.** Прачытайце сказы.

Стаіць цёплае **надвор’е**. Бабуля выйшла ў агарод і рве бур’ян. Унучкі Мар’я і Дар’я дапамагаюць ёй.

Выпішыце словы з апострафам. Падкрэсліце літары, паміж якімі пішацца апостраф. Вымавіце па парадку гукі, назавіце літары ў выдзеленым слове.




**109.** Прачытайце народную прыкмету. Запомніце яе. Назавіце слова з апострафам.



Поўня светлая і чыстая —
на добрае надвор’е.



***по́ўня*** — *поўны месяц*

Запішыце сказ па памяці. Падкрэсліце літары, паміж якімі пішацца апостраф.

**110.** Разгадайце рэбусы і дапоўніце сказы патрэбнымі словамі.




У нас дружная ... .




Стаіць веснавое ... .

**111.** Прачытайце верш. Для чаго служыць апостраф?

## Апостраф

Аб..ява! Аб..ява! Аб..ява!
Па..слухайце вераб..я.
Апостраф не літара,
А дзівосная з..ява.

*У. Ягоўдзік.*

У якія словы трэба ўставіць апостраф замест кропак?

Выпішыце словы з апострафам. Падкрэсліце літары, паміж якімі пішацца апостраф.

**112.** Па схеме складзіце словы. Запішыце толькі словы з апострафам.







З адным словам вусна складзіце сказ.



**113.** Прачытайце. Якія літары або знак трэба ўставіць у словы замест пропускаў?



Паміж дрэў — дыван куп..я́,
тут — зубрыная сям..я.
Бацька-зубр на мох прылё..,
аб пянёк пачухаў ро.. .

*В. Коўтун.*

Спішыце. Падкрэсліце літары, паміж якімі пішацца апостраф.

### Успомніце з урокаў рускай мовы

Для чаго служыць мяккі знак ***(ь)***? Назавіце словы, у якіх мяккі знак абазначае мяккасць папярэдніх зычных.

**114.** Прачытайце сказы. Вымавіце выдзеленыя словы па́рамі.

1. Я **палю** кветкі разам з мамай. Увечары я **пальюю** іх вадой.
2. Мы з татам варым бульбу. Я **салю** яе. Калі бульба зварыцца, я **сальюю** ваду.

У якіх словах паміж зычным і галосным гукамі вымаўляецца гук [й']?



Мяккі знак можа не толькі абазначаць мяккасць зычных гукаў на пісьме *(камень, пісьмо)*. Ён можа паказваць, што паміж мяккім зычным і галосным гукамі вымаўляецца гук [й’]. Тады яго называюць раздзяляльным мяккім знакам.

**115.** Адгадайце загадку.

Ірву я шкодную траву з **-лю**,
вадою кветкі напаю з **-лью.**



*..лю*



*..лью*

Запішыце словы-адгадкі.

Падкрэсліце літары, паміж якімі пішацца раздзяляльны ***ь***.

Раздзяляльны мяккі знак пішацца пасля літар ***л, н, з, с, ц,*** спалучэння літар ***дз*** перад ***е, ё, ю, я, і***: ***льецца****, Арсеньеў, Афанасьеў, парцье́ры, Аркадзьеў***.

**116.** Прачытайце. Выпішыце словы з раздзяляльным мяккім знакам. Падкрэсліце літары, паміж якімі пішацца раздзяляльны ***ь***.

**Ульяна Афанасьева, пісьмо, паштальён, льецца, вуге́льчыкі, мільён.**

**Рм** Раскажыце аб прафесіі паштальёна. Выкарыстайце словы:



*паштоўка*


*ліст*


*часопіс*



*газета*

Як па-іншаму можна назваць ліст?

**117.** Прачытайце. Адгадайце загадкі. Што трэба ўставіць у словы замест пропускаў: раздзяляльны ***ь*** ці апостраф?

**Хто ўсё можа з..есці, калі яму не даць папіць? *(В. Астахновіч)*.**

а о г ь н

**Гуляе, жыру́е міл..ён дзетак, у кожнага панцыр з манетак *(У. Карызна)*.**

б а ы р

**118.** Дапоўніце сказы патрэбнымі словамі. Пры спісванні ўстаўце ў словы раздзяляльны **ь** або апостраф.

У Мар’і дружная ... . Ба́цьку дзяўчынкі завуць ... . Маці — ... . Ёсць у яе сястра ... .

Словы для даведкі: *сям..я, Мікалай Васіл..евіч, Дар..я Пятроўна, Ул..янка.*

**119.** Прачытайце прыказку. Чаму так гавораць?

І ў вераб..я свая сям..я.

Што трэба ўставіць у словы замест пропускаў: раздзяляльны **ь** ці апостраф? Запішыце прыказку пад дыктоўку настаўніка.



**120.** Адгадайце загадку. Спішыце, устаўце замест пропускаў раздзяляльны **ь** або апостраф.

мар ка

Голас тонкі, нос доўгі.
Хто яго заб..е, сваю кроў прал..е.

**121.** Адгадайце загадку.



За нас раней ён устае
і звонкі голас падае.
Звініць настойліва, вясёла:
— Пад'ём! Цябе чакае школа.

*Н. Галіноўская.*

Запішыце слова-адгадку, падзяляючы яго для пераносу. Як трэба падзяліць для пераносу слова *пад'ём*?

Апостраф і мяккі знак пры пераносе не аддзяляюцца ад папярэдняй літары: *пад'-ём, Уль-яна*.

**122.** Прачытайце. Што трэба ўставіць у словы замест пропускаў?

Паштал..ён, Дар..я, звяр..ё, б..ецца, міл..ён, л..ецца.

Выпішыце спачатку словы з раздзяляльным ***ь***, потым з апострафам, падзяляючы іх лініямі (|) для пераносу.

**123.** Прачытайце прыказкі. Чаму так гавораць?

Напалоханая варона і **вераб..я** баіцца.
Слязамі ворага не **паб'еш.**

Што трэба ўставіць на месцы пропуску? Як падзяліць выдзеленыя словы для пераносу?

Запішыце першую прыказку пад дыктоўку настаўніка.

**124.** Назавіце адным словам. Запішыце гэтыя словы, падзяляючы іх для пераносу.

| | |
|---|---|
| Група зорак на небе. | *пер..е* |
| Птушыная «вопратка». | *сузор..е* |

**125.** Прачытайце сказы. Словы ў дужках змяніце так, як патрабуе сэнс.

Пер'е ў *(верабей)* шэрае.
Коні сытыя *(біць)* капытамі.
Сонца *(ліць)* сваё цяпло на зямлю.

Запішыце сказы, падзяляючы словы з апострафам для пераносу. Назавіце слова, якое нельга падзяліць для пераносу.

**126.** Дапоўніце сказы патрэбнымі словамі.



... разносіць пошту. Ён зайшоў у ... дома.

... купаюцца ў лужыне. Яны чысцяць сваё ... .



Запішыце два сказы на выбар.



**127.** Спішыце сказ, устаўляючы ў словы патрэбны раздзяляльны знак. Падзяліце для пераносу выдзеленыя словы.

Кураняты з **verab..ямі** дружна **п..юць** вадзіцу з ямы.




**128.** Прачытайце легенду.

## Адкуль назва горада

Там, дзе цяпер стаіць ***(Г/г)*омель**, пасярэдзіне ракі ***(С/с)*ож**, некалі было намыта шмат пяску. На беразе каля гэтага месца заўсёды стаяў чалавек. Каб плыты і лодкі не ўзбіваліся на мель, ён крыкам папярэджваў:

— Го! Мель! Го! Мель!
Вось і пайшло — *(Г/г)*омель.

Адкуль у горада Гомеля такая назва?

**Рм** Што вы ведаеце пра паходжанне назвы свайго горада, вёскі?

Выпішыце выдзеленыя словы, растлумачце іх правапіс. Вымавіце па парадку гукі, назавіце літары ў слове *месца*. Колькі ў ім складоў?

**129.** Прачытайце верш. Якія літары прапушчаны ў словах? Растлумачце правапіс ***е, ё—я***.

## Каб помнілі

Ад дз..доў, ад прадз..даў,
ад в..коў сівых
нам у памяць дадзена
слава дз..н былых.
Каб мы зналі-ведалі,
як даўней жылі,
над якімі бедамі
ўзрасці змаглі.

*В. Кажура.*

Спішыце першы сказ. Устаўце патрэбныя літары і падкрэсліце іх.

**130.** Прачытайце пацешку. Растлумачце правапіс літар ***д, дз***.

Ля ракі рыбачок-навічок
вуду жвавенька ўзяў на плячо.
**Пахваліўся пры гэтым дзівак,**
**што ён спрытны, умелы рыбак.**
Ды хваліцца не стаў рыбачок,
як сябе падчапіў на кручок.

*В. Жуковіч.*



Спішыце выдзелены сказ. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць няпарныя цвёрдыя зычныя гукі.

**131.** Прачытайце сказы. Знайдзіце ў іх словы, якія адрозніваюцца адным гукам. Якімі літарамі адрозніваюцца гэтыя словы?

Наляпіў Мікола з воску смешных цацак на ўсю вёску.

Я свой вывадак вяду на крынічную ваду.

Каля саду на лавачку сяду *(Н. Старажава)*.



**132.** Адгадайце загадку.

Над зямлёю, над в..дою  
тр..се белай бар..дою.  
А як с..нейка ўсміхнецца,  
ён р..сою разал*(ь/’)*ецца.

*А. Прохараў.*

м у н а т

Якія літары трэба ўставіць на месцы пропускаў?

Выпішыце словы з прапушчанымі літарамі. Запішыце слова з раздзяляльным знакам.

## Адкажыце на пытанні

**1.** Як абазначаюцца гукі на пісьме?

**2.** Якія словы пішуцца з вялікай літары?

**3.** Чым адрозніваюцца гукі [ў] і [у]? Калі пішацца літара ***ў***?

**4.** Як вызначыць, колькі складоў у слове?

**5.** Раскажыце правіла правапісу літар ***о, э—а*** ў беларускай мове. Прывядзіце прыклады.

**6.** Калі ў беларускай мове пішуцца літары ***е, ё—я***? Прывядзіце прыклады.

**7.** Як абазначаецца мяккасць зычных гукаў на пісьме?

**8.** Назавіце няпарныя цвёрдыя зычныя гукі.

**9.** Як праверыць правапіс слоў з парнымі звонкімі ці глухімі гукамі на канцы ці ў сярэдзіне слова?

**10.** Якія зычныя гукі ў беларускай мове могуць падаўжацца? Як абазначаюцца падоўжаныя зычныя гукі на пісьме? Прывядзіце прыклады.

**11.** Калі ў словах пішуцца апостраф і раздзяляльны мяккі знак?

# СЛОВА

## Значэнне слова

**133.** Назавіце адным словам.

| | |
|---|---|
| Асобнае памяшканне з плітой для гатавання ежы. | *спальня* |
| Пакой, у якім спяць. | *ложак* |
| Будынак для жылля. | *кухня* |
| Мэбля, прызначаная для таго, каб на ёй спаць. | *дом* |


Людзі карыстаюцца словамі для называння прадметаў, з'яў навакольнага свету, дзеянняў, якасцей. Кожнае слова мае пэўнае значэнне.

**Успомніце**

У якім парадку размяшчаюцца словы ў слоўніках?



**У руска-беларускім слоўніку побач з рускім словам даецца яго пераклад на беларускую мову. Напрыклад: *ко́мната — пако́й*. У беларуска-рускім слоўніку побач з беларускім словам даецца яго пераклад на рускую мову. Напрыклад: *падло́га — пол*.**

**134.** Пры дапамозе слоўніка перакладзіце словы *ковёр, диван, дверь, зеркало* на беларускую мову. Значэнне якіх слоў раскрываецца ніжэй?

Выраб з варсістай тканіны, які кладзецца на падлогу.

Мяккая мэбля са спінкай і падлакотнікамі.

Праём у сцяне для ўваходу і выхаду.

Гладкая бліскучая паверхня, здольная даваць адбіткі тых прадметаў, якія знаходзяцца перад ёй.

 ***дзве́ры***

Запішыце слова *дзверы* разам з яго значэннем. Што яшчэ называюць дзвярамі?

Дзверы — … .

**135.** Прачытайце і адгадайце загадку. Запішыце слова-адгадку.

Хто ні ідзе, я прыпыня́ю,
Падаваць руку змуша́ю,
Маю вочка і званок,
Маю моцны я замок.
Толькі ва́ртаму даве́ру
Гаспадар адчыніць ... .

*А. Цярашкова.*





***ва́рты даве́ру*** *— той, каму можна давяраць*

Перакладзіце слова *вочка* на рускую мову.

**136.** Прачытайце скорагаворку. Навучыцеся хутка і правільна вымаўляць яе.

Сядзіць рак на гары,
робіць дзверы для нары.
А малыя рачкі́
ловяць плотак на кручкі.

*Т. Тарасава.*

Растлумачце значэнне слова *рачкі*. Вымавіце па парадку гукі і назавіце літары ў гэтым слове.

**137.** Адгадайце загадку. Перакладзіце слова *прысады* на рускую мову.



**Д**омік летні
ля прысад,
**а**гарод і спеўны сад
**ч**аста вельмі
клічуць нас
**а**дпачыць у вольны час.

*У. Мазго.*

Спішыце загадку. Падкрэсліце літары, напісанне якіх трэба праверыць. Вусна падбярыце праверачныя словы.

**138.** Прачытайце слова. Перастаўце літары ў ім так, як падказваюць лічбы. Ці змянілася значэнне слова?

3 4 1 2
**З а л а**

Устаўце патрэбныя словы ў сказы:

... — гэта вялікі пакой для прыёму гасцей.
... — гэта доўгае гнуткае сцябло некаторых раслін.

**139.** Прачытайце. Чым адрозніваюцца словы? Ці аднолькава яны пішуцца?

за́мкі — замкі́

Вусна дапоўніце сказы.

Палацы, у якіх жывуць каралеўскія асобы, — гэта ... .

Прыстасаванні для таго, каб зачыняць што-небудзь ключом, — гэта ... .

**140.** Прачытайце і адгадайце загадку. Запішыце слова-адгадку.



Папрасіў я плод у **краме**,  
А даюць — каштоўны камень.  
Не мая ў тым віна,  
Калі назва ў іх адна.

*У. Мазго.*



Які гранат кіслы і сакавіты?

Перакладзіце выдзеленае слова на рускую мову. У якім магазіне купляюць кнігі?



**141.** Запішыце загадку разам з адгадкай. Чым адрозніваюцца выдзеленыя словы?

**Я** з металу **рукі** маю,
**к**арабель за нос трымаю.
**А** апусцяць — тры **рукі**
**р**азгарну на дне ракі.

*У. Мацвеенка.*



## Словы, якія называюць прадметы

**142.** Разгледзьце малюнак.



Адкажыце на пытанні:

Што вы бачыце на малюнку?
Хто будуе дом?

Што абазначаюць гэтыя словы?

Словы для даведкі: *сцены, лесвіца, дах, вокны, кран, кранаўшчык, інжынер.*

Словы, якія называюць прадметы, адказваюць на пытанні хто? што?: *шафёр, урач, машына, цукерка*.

**143.** Замест кропак устаўце патрэбныя словы. Запішыце дзве групы слоў на выбар.

Мэбля (што?): ..., ..., ... .
Людзі (хто?): ..., ..., ... .
Птушкі (хто?): ..., ..., ... .
Посуд (што?): ..., ..., ... .
Гародніна (што?): ..., ..., ... .

Словы для даведкі: *вераб'і, шафа, дзяўчынка, будаўнік, ластаўкі, цыбуля, талерка, канапа, кубак, ложак, гарбуз, сусед, гракі, сподак, морква*.

Узор. *Мэбля* (што?): *шафа, канапа, ложак*.

## Успомніце з урокаў рускай мовы

Да якіх слоў ставіцца пытанне хто?, а да якіх — што?

Словы, якія называюць людзей і жывёл, адказваюць на пытанне **хто?**: *хлопчык, леў*.

Усе астатнія словы — назвы прадметаў адказваюць на пытанне **што?**: *стол, снег*.

**144.** Дапоўніце сказы слоўнікавым словам.



Маленькая нерухомая ... — гэта лесвічка.



Прыстаўная ... — гэта драбі́ны.

Запішыце другі сказ. Падкрэсліце ў ім словы, якія называюць прадметы.




**145.** Прачытайце і запомніце прыказку.

Рукі малыя, ды да працы ўда́лыя.

Запішыце прыказку па памяці. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць прадметы.

**146.** Замяніце адным словам.

1. Чалавек, які працуе на будоўлі.
2. Вадзіцель аўтамабіля.
3. Рад прыступак для пад'ёму і спуску.
4. Прылада для капання зямлі.


*будаўнік*


*шафёр*


*рыдлёўка*


*лесвіца*

Запішыце словы. У дужках пастаўце да іх пытанні. Падкрэсліце слоўнікавае слова.

Узор: (хто?) *будаўнік*.



**147.** Выпішыце спачатку словы, якія адказваюць на пытанне хто? Пасля выпішыце словы, якія адказваюць на пытанне што?

Ручнік, кватэра, матуля, дзядуля, конь, дождж, надвор'е, птушка.

# Прыназоўнік

## Успомніце з урокаў рускай мовы

Як называюцца словы, якія служаць для сувязі слоў у сказе?

| **па-беларуску** | **па-руску** |
|---|---|
| прыназоўнік | предлог |

**148.** Разгледзьце малюнкі. Дзе сядзіць грак?



Грак сядзіць ... дрэве.



Грак сядзіць ... дрэвам.



Грак сядзіць ... дрэвам.

Вусна дапоўніце сказы патрэбнымі словамі, каб іх сэнс стаў зразумелым.

Для чаго служыць прыназоўнік у сказе?

Прыназоўнікі ***у, на, над, з, за, з-за, да, ад, па, пад*** служаць для сувязі слоў у сказе. Яны пішуцца асобна ад іншых слоў у сказе: *Унук паехаў да бабулі.*

Рм **149.** Разгледзьце рэпрадукцыю карціны Вітольда Бялыніцкага-Бірулі. Якая пара года на ёй адлюстравана?



Адкажыце на пытанні, выкарыстайце словы для даведкі.

Што выглянула **з-за** воблакаў?
**Ад** чаго вызвалілася рэчка?
Дзе яшчэ ляжыць снег?
Што прабіваецца з зямлі?

С л о в ы   д л я   д а в е д к і: *ад лёду, сонейка, на палях, першая траўка*.

Адказы запішыце. Падкрэсліце прыназоўнікі.

**150.** Прачытайце. Чаму так гавораць?

Сакавік з в..дой, красавік з трав..й, май з кветкамі.

У сакавіку куры нап..юцца з лужыны.

Спішыце сказы. Устаўце патрэбныя літары, растлумачце іх правапіс. Падкрэсліце прыназоўнікі.

**Гаварыце правільна**

прыйсці са школы
пайсці ў *(па)* грыбы
пайсці ў *(па)* ягады

**Рм** **151.** Адкажыце на пытанні:

| | |
|---|---|
| Куды мама ходзіць па ягады? | *з татам* |
| З кім ты любіш хадзіць у грыбы? | *з мамай* |
| | *на базар* |
| | *з бабуляй* |

Адзін з адказаў запішыце. Падкрэсліце ў сказе прыназоўнікі.



**152.** Прачытайце, спішыце. Устаўце патрэбныя літары, растлумачце іх правапіс. Назавіце прыназоўнікі.

Засп*(е/я)*ваў жаваранак. З лесу павеяла хала*(д/т)*ком. Узышло на небе сонца.

## Словы, якія называюць прыметы прадметаў

**153.** Падбярыце да слоў-назваў іх прыметы.

| | |
|---|---|
| Журавіны | *круглы, румяны, салодкі, сакавіты* |
| Вавёрка | *вялікае, глыбокае, празрыстае, блакітнае* |
| Яблык | *рыжая, маленькая, жвавая, пушыстая* |
| Возера | *буйны́я, чырвоныя, кіслыя, карысныя* |

Ад слоў з левага слупка пастаўце пытанні да слоў з правага слупка.

Запішыце, якім бывае яблык.

Словы, якія называюць прыметы прадметаў, адказваюць на пытанні **які?** (**якая? якое? якія?**): *белы* (снег), *вясёлая* (усмешка), *лагоднае* (сонейка), *цёплыя* (дні).

**154.** Прачытайце верш.

Я вясну малюю,
фарбаў не шкадую.
Колерам зялёным —
дрэва і палеткі,
колерам чырвоным —
сонейка і кветкі,
колерам блакітным —
неба, ручаіну.
А якую фарбу
воблачку пакіну?

*П. Прануза.*

Якія колеры пераважаюць вясной? Якога колеру воблачка?

Выпішыце з верша ў алфавітным парадку словы — назвы колераў вясны.

**155.** Адгадайце загадку.

Хмара дробны дожджык сее,
сонца ярка свеціць,
у сем колераў квітнее
што? — Скажыце, дзеці.




*У. Мацвеенка.*

Знайдзіце ў загадцы слова, якое называе прымету прадмета. Назавіце колеры вясёлкі.

**156.** Прачытайце. Дапоўніце сказы патрэбнымі словамі.




Сцежка (якая?) вузкая, а дарога ... .
Яблык (які?) вялікі, а вішня ... .
Морква (якая?) салодкая, а цыбуля ... .
Дрэва (якое?) высокае, а куст ... .

Словы для даведкі: *шырокая, горкая, нізкі, маленькая.*

Запішыце сказ, у якім прадметы параўноўваюцца па велічыні. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць прыметы прадметаў.

Узор. *Сцежка вузкая, а дарога шырокая.*

**157.** Да слоў з правага слупка падбярыце словы з левага слупка.

| | |
|---|---|
| чырвоныя | *твар* |
| круглы | *шчокі* |
| румяныя | *вусны* |

**Рм** Дапоўніце сказы патрэбнымі словамі.

Алеся — прыгожая дзяўчынка. У яе ... твар, ... вусны, ... шчокі. Яна добрая сястрычка. Алеся заўсёды падзеліцца з малодшым брацікам яблыкам, цукеркамі.

Назавіце ў сказах словы, якія абазначаюць прыметы прадметаў. Вусна пастаўце да іх пытанні.

Выпішыце са сказаў слоўнікавыя словы.



**158.** Па прыметах адгадайце, пра што гаворыцца ў загадцы.



З*(е/я)*лёны мех,
а ў ім — чырвоны сне*(г/х)*.
*А. Клышка.*

Запішыце загадку. Устаўце патрэбныя літары.

У класе або дома праверце па перакладным слоўніку, ці правільна вы назвалі слова-адгадку.

## Словы, якія называюць дзеянні прадметаў

**159.** Да слоў з левага слупка падбярыце па сэнсе словы з правага слупка.

| | |
|---|---|
| Дзеці (што робяць?)... . | *свішча*<br>*вые*<br>*дзьме* |
| Вецер (што робіць?)... . | *свеціць*<br>*грэе*<br>*прыгравае* |
| Сонейка (што робіць?)... . | *бегаюць*<br>*гуляюць*<br>*катаюцца* |

Што абазначаюць словы з правага слупка?

Словы, якія называюць дзеянні прадметаў, адказваюць на пытанні **што раблю? што робіш? што зраблю? што зробяць?** і інш.: *чытаю, чытаеш, напішу, напішуць.*

**160.** Скажыце, хто як голас падае́.






*каркае* *мяўкае* *гагоча* *вые*

Запішыце сказы. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць дзеянні прадметаў.

Узор. *Варона каркае.*

Вусна адкажыце, як рухаюцца гэтыя жывёлы.

**161.** Прачытайце. Адгадайце загадку. Скажыце, якія словы падказалі вам адгадку.

## Хто гэта?

Тра*(у/ў)*ку рве, жвачку ж*(у/ў)*е, пойла п’е, мы́кае і раве, гаспадыню заве.

Спішыце, устаўце прапушчаныя літары. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць дзеянні прадмета. Вусна пастаўце да іх пытанні.

**162.** Прачытайце словы. Вусна пастаўце да іх пытанні. Да слоў — назваў дзеянняў прадметаў падбярыце словы — назвы прадметаў.




**163.** Прачытайце прыказкі. Якіх людзей паважаюць: працавітых ці балбатлівых?

Справы словамі не заменіш.
Не ад красных слоў дабро на свеце стала.

Назавіце ў прыказках словы, якія абазначаюць дзеянні прадметаў.

Запішыце першую прыказку па памяці.

**164.** Прачытайце сказы ў парадку ўзрастання хуткасці руху. Назавіце словы, якія абазначаюць дзеянні прадметаў.

Чалавек **ідзе**. Чарапаха **паўзе**. Машына **імчыцца**. Конь **бяжыць**.



**165.** Прачытайце скорагаворку.

Спрытна кроп палоў Пракоп.
Лёг пад кропам і захроп.

*В. Вітка.*



***кроп*** — рус. *укро́п*

Спішыце, падкрэсліце словы, якія абазначаюць дзеянні прадмета. Вусна пастаўце да іх пытанні.

## Адкажыце на пытанні

**1.** На якія пытанні адказваюць словы, што называюць прадметы?

**2.** Для чаго служаць прыназоўнікі? Як яны пішуцца з іншымі словамі?

**3.** На якія пытанні адказваюць словы, што называюць прыметы прадметаў?

**4.** На якія пытанні адказваюць словы, што называюць дзеянні прадметаў?

# СКАЗ

**166.** Знайдзіце сярод прапанаваных спалучэнняў слоў сказ. Па якіх прыметах вы вызначылі, што гэта сказ? Выпішыце сказ.



Таня, спячы, торт, для, свой, матуля.

Таня спякла торт для...

Таня спякла торт для сваёй матулі.

> Сказ выражае закончаную думку.
>
> Першае слова ў сказе пішацца з вялікай літары. У канцы сказа ставіцца кропка (.), пытальнік (?) або клічнік (!).

**167.** Выразна прачытайце верш.

— Што, сябры, для жыта трэба?
— Ну, вядома, трэба глеба.

— А для птушкі?
— Вышыня.
— А для казкі?
— Цішыня.
— Ну, а што для весялосці?
— Каб часцей бывалі госці!

*М. Гелер.*

Знайдзіце і прачытайце сказы-пытанні. Які знак стаіць у канцы гэтых сказаў?

Знайдзіце і прачытайце сказы-адказы. Які знак стаіць у канцы гэтых сказаў?

Знайдзіце сказ, які трэба чытаць з павышанай інтанацыяй. Які знак стаіць у канцы гэтага сказа?

У якіх сказах больш за ўсё слоў? У якіх сказах менш за ўсё слоў?

**168.** Прачытайце. Колькі тут сказаў? Спішыце, правільна афармляючы сказы на пісьме.

Цётка Паўліка жыве ў вёсцы летам хлопчык ездзіць да яе ў госці там у Паўліка ёсць сябры яны разам ловяць у рэчцы рыбу

Раскажыце, як вы адпачываеце летам.

**169.** Прачытайце. Чаму гэтыя словы нельга назваць сказам?




Расстаўце словы ў патрэбным парадку.

Прачытайце скорагаворку. Навучыцеся правільна вымаўляць яе. Растлумачце правапіс літар ***у*** і ***ў***.

**170.** Прачытайце прыказкі. Якая думка выражаецца ў іх?

Адклад не ідзе на лад.

Сон на заўтра адкладзі, а справу сёння зрабі.



***адкла́д*** — тут: *адкла́дванне справы на нейкі час*

Колькі слоў у кожным сказе? Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

Запішыце па памяці першую прыказку.



**171.** Вызначце межы сказаў.

Ранкам у лесе пахнуць кветкі на розныя галасы заліваюцца птушкі

Спішыце. Пастаўце ў канцы сказаў патрэбныя знакі прыпынку.

**172.** Да слоў з левага слупка падбярыце словы з правага слупка.

| | |
|---|---|
| Ружы ... . | *спявае* |
| Шпакі ... . | *чытае* |
| Хлопчык ... . | *цвітуць* |
| Сонейка ... . | *спіць* |
| Дзіця ... . | *свеціць* |
| Дзяўчынка ... . | *прыляцелі* |

Запішыце 3 сказы (на выбар). Пра каго або пра што гаворыцца ў кожным сказе? Падкрэсліце гэтыя словы адной рыскай.

У з о р. *Ружы цвітуць.*

**173.** Дапоўніце сказы патрэбнымі словамі.

... ловіць мышэй.
... растае́ вясной.
... лечыць людзей.

Спішыце сказы. Пра каго або пра што гаворыцца ў кожным сказе? Падкрэсліце гэтыя словы адной рыскай. Што пра іх гаворыцца? Падкрэсліце гэтыя словы дзвюма рыскамі.




**174.** Разгадайце рэбус і назавіце слоўнікавае слова.



~~п~~ = к

~~м~~ = л

Дапоўніце сказы патрэбнымі словамі.

На талерцы ляжыць смачны ... .
Ад спальні да кухні цягнецца доўгі ... .

Запішыце другі сказ. Падкрэсліце слова, якое абазначае, пра што гаворыцца ў сказе.

**Рм** **175.** З асобных слоў складзіце сказы.

Коля, клас, спяшаўся, у.

У, хлопчык, калідоры, настаўніцу, сустрэў.

Коля, ёй, з, павітаўся.

Запішыце сказы. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць, пра каго гаворыцца ў сказе і што гаворыцца.

Назавіце ў сказах прыназоўнікі.

Якімі словамі можна вітацца з настаўніцай? З сябрамі?

### Гаварыце правільна

Павітацца з настаўніцай, дзякаваць бабулі, даравацъ сябру.

**Рм** **176.** Адкажыце на пытанні.



З кім павіталася Таня ў школе?

Каму дзяўчынка хутка даравала крыўду?





Каму падзякавала Таня за смачную вячэру?

**177.** Размясціце радкі верша Ніны Галіноўскай «Хітры павучок» па парадку.

| | |
|---|---|
| 1. | На травінках павучок |
| ? | — Прылятайце, мухі, мошкі, |
| ? | выткаў тонкі гамачок. |
| ? | і пагушкайцеся трошкі. |

Спішыце першы сказ. Назавіце ў ім словы, якія абазначаюць, пра каго гаворыцца ў сказе і што гаворыцца.



**178.** З асобных слоў складзіце сказы.

Увесну, фіялка, ліпаю, пад, расцвіла.
За, раскінуўся, домам, прыгожы, парк.

Запішыце сказы. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць, пра каго або пра што гаворыцца ў сказе і што гаворыцца.

Рм **179.** Вусна дапоўніце сказы па пытаннях.



Добра сонечным днём на вуліцы.
Дзяўчынкі катаюцца (на чым?) на ... .
Хлопчыкі гуляюць (у што?) у ... .
Малыя гушкаюцца (на чым?) на ... .

У другім сказе назавіце словы, якія абазначаюць, пра каго або пра што гаворыцца ў сказе і што гаворыцца.

**180.** Расстаўце словы ў патрэбным парадку. Запішыце сказы.




Падкрэсліце ў сказах словы, якія абазначаюць, пра каго або пра што гаворыцца ў сказе і што гаворыцца. У другім сказе назавіце прыназоўнік.

**181.** Прачытайце. Вызначце межы сказаў.

Надыходзяць ц..плыя дз..нькі св..ціць ласкавае сон..йка зазел..нела маладая траўка сп..ваюць галасістыя птушкі.

Якія літары трэба ўставіць у словы? Растлумачце правапіс літар ***е, ё — я***.

Спішыце. Назавіце ў сказах словы, якія абазначаюць, пра каго або пра што гаворыцца ў сказе і што гаворыцца.

**182.** Прачытайце прыказкі. Чаму так гавораць?

Лета збірае, а зіма праядае.
Лянок не любіць ляноты.

Колькі слоў у сказах? Спішыце сказ з чатырох слоў. Падкрэсліце ў ім словы, якія абазначаюць, пра што гаворыцца ў сказе і што гаворыцца.



**183.** З асобных слоў складзіце сказы і запішыце.

Дзеці, лес, у, прыйшлі.
Тут, ландышы, цвітуць.
Прыгожа, птушкі, спяваюць.

Падкрэсліце словы, якія абазначаюць, пра каго або пра што гаворыцца ў сказе і што гаворыцца.

## Адкажыце на пытанні

**1.** Што выражае сказ?
**2.** З якой літары трэба пісаць першае слова ў сказе?
**3.** Якія знакі прыпынку ставяцца ў канцы сказа?

# ТЭКСТ

**Успомніце з урокаў рускай мовы**

З чаго складаецца тэкст?

**184.** Прачытайце дзве групы сказаў.

I. Мы хадзілі ў грыбы. Я сустрэла сяброўку Таню. Бабуля згатавала грыбны суп. Вавёрка збірае грыбы і запасае іх на зіму.

II. Сяргейка ўлетку часта хадзіў у грыбы. Шмат грыбоў было ў лесе. Кожны грыб ён акуратна зразаў. Хлопчык вяртаўся дамоў задаволены.

У якой групе сказы звязаны па сэнсе? Якую групу можна назваць тэкстам? Пра каго расказваецца ў тэксце?

Некалькі сказаў, звязаных паміж сабой па сэнсе, называюцца тэкстам.

**185.** Пастаўце сказы ў патрэбнай паслядоўнасці, каб атрымаўся тэкст.

Там тата з сынам убачылі шмат розных звяроў і птушак.

Вася прачнуўся рана.

Яны паехалі ў заапарк.

Хлопчык устаў, паснедаў і пайшоў з татам на аўтобусны прыпынак.

Запішыце тэкст. У першым сказе падкрэсліце словы, якія абазначаюць, пра каго гаворыцца ў сказе і што гаворыцца.

**186.** З асобных слоў вусна складзіце сказы.



Лёня, са, вяртаўся, школы. Раптам, убачыў, ён, кацяня, маленькае. Яно, мяўкала, жаласна. Хлопчык, яго, падняў, і, дамоў, прынёс. Цяпер, жыве, у, кацяня, Лёні.

Ці ўтвараюць сказы тэкст? Чаму?

Назавіце ў сказах прыназоўнікі.

**187.** Прачытайце тэкст. Якую ён мае назву? Колькі ў ім сказаў?

### Мая градка

Я на дачы маю градку,
даглядаю сам яе.
Раскажу вам па парадку,
што на ёй цвіце-расце:
мак, часнок, гарох, салата,
па баках — і кроп, і мята.

*Н. Галіноўская.*

У якіх словах трэба праверыць правапіс парных звонкіх і глухіх зычных? Вусна падбярыце да іх праверачныя словы.



**188.** Пастаўце сказы ў патрэбнай паслядоўнасці, каб атрымаўся тэкст.

Добра іграў на ёй камарык у арэшніку. Была ў камарыка скрыпачка. Тут і ветрык яму падпяваў, і сябры-камарыкі. Цэлы аркестр атрымаўся.

Спішыце першыя два сказы тэксту.

**189.** Прачытайце тэкст.



Мядзведзь любіць лавіць рыбу. Ён доўга можа сядзець у вадзе і чакаць. Вось плыве вялікі ласось. Мядзведзь лоўка хапае яго лапай і выкідвае на бераг.

Пра каго расказваецца ў тэксце? Што аўтар хацеў сказаць пра мядзведзя?

З прапанаваных загалоўкаў выберыце той, які найбольш падыходзіць да тэксту: «Мядзведзь», «Добры рыбак», «Рыбалка».



Сказы ў тэксце аб'ядноўваюцца тэмай і галоўнай думкай.

**Тэма** — гэта тое, пра што гаворыцца ў тэксце.

**Галоўная думка** — гэта асноўнае, пра што аўтар хоча сказаць чытачу.

На тэму або галоўную думку можа ўказваць загаловак тэксту.

**190.** Прачытайце загаловак тэксту. Як вы думаеце, на якую тэму (пра што) гэты тэкст?

Падзяліце тэкст на сказы. Ці падказаў вам загаловак тэму тэксту?

## Дружок

На лесвіцы скуголіла шчаня я ўзяў яго і прынёс дамоў шчаня хутка прывыкла да мяне я назваў яго Дружок пазней Дружок стаў маім верным сябрам

Запішыце тэкст, правільна афармляючы сказы на пісьме.

**191.** Прачытайце. Чаму так гавораць?

Чалавек без сяброў — што дрэва без каранёў.

Пры́яцеля пазнаеш у няшчасці.

Лепш адзін прыяцель, чым дзесяць ворагаў.

Якая прыказка падыходзіць да тэксту з практыкавання 190? Назавіце ў ёй прыназоўнік.

**192.** Прачытайце тэкст.

## Сапраўдны сябар

Быў у Мішы сабачка Шарык. Міша і Шарык заўсёды гулялі разам. Аднойчы хлопчык з сабакам пайшоў на рэчку. Міша падышоў блізка да вады. Раптам ён паслізнуўся і ўпаў у раку. Шарык кінуўся ў ваду. Ён схапіў Мішу за кашулю і пацягнуў да берага. Так Шарык выратаваў свайго сябра.



Пра што гэты тэкст? На тэму ці на галоўную думку тэксту ўказвае загаловак? Якая прыказка з практыкавання 191 дапамагае раскрыць галоўную думку тэксту?



**193.** Пастаўце сказы ў патрэбнай паслядоўнасці, каб атрымаўся тэкст.

Школьнікі часта прыходзяць да яго. У нашай вёсцы жыве старэнькі дзядуля. Дзядуля вельмі ўдзячны маленькім памочнікам. Дзеці падмятаюць падлогу, носяць ваду.

Які загаловак найбольш падыходзіць да тэксту: «Дзядуля», «Маленькія памочнікі»?

Запішыце першыя два сказы тэксту.

**194.** Прачытайце тэкст.

Напалі на сасну чарвякі і вусені. Захварэла сасна. Пачалі жоўкнуць і асыпацца шыпулькі.

Прыляцеў да дрэва стракаты дзяцел. Потым з’явілася маленькая птушка каралёк. Яна заняла верхнія тонкія галінкі. Сінічкі з чорнымі галоўкамі прымасціліся ніжэй. Яшчэ ніжэй прыселі сініцы ў беленькіх шапачках. Калупа́ў дзюбай у кары попаўзень. Усім птушкам хапіла работы.

Вы́ратавалі дрэва санітары лесу. Сасна была ўдзячная птушкам.



***шыпу́лькі*** — рус. *иго́лки* (у хвойных растений)
***страка́ты*** — рус. *пёстрый*

Пра што гэты тэкст? Які загаловак найбольш падыходзіць да тэксту: «Хворая сасна», «Санітары лесу», «Дапамога сасне»?

На што ўказвае загаловак: на тэму ці на галоўную думку тэксту?

Для чаго тэксту патрэбны загаловак?

**195.** Выберыце з тэксту практыкавання 194 сказы, якімі можна падпісаць кожны малюнак.

Падбярыце загаловак для кожнай групы сказаў.







**Рм** **196.** Адкажыце на пытанні да тэксту. Выкарыстайце прапанаваныя словы.

1. Што здарылася з сасной?
2. Хто прыляцеў да сасны?
3. Што зрабілі санітары лесу?

Словы для даведкі:

1) *чарвякі і вусені, захварэла, пажоўклі шыпулькі*;

2) *стракаты дзяцел, каралёк, сінічкі з чорнымі галоўкамі, сінічкі ў белых шапачках, попаўзень*;

3) *ыратавалі дрэва*.

**197.** Прачытайце прыказкі. Якая з іх падыходзіць да тэксту з практыкавання 194.

Ластаўка вясну пачынае, а салавей лета канчае.

Птушка малая, а карысць ад яе вялікая.



***кары́сць*** — рус. *по́льза*

Запішыце прыказку пад дыктоўку настаўніка.

**Рм** **198.** Вусна перакажыце тэкст практыкавання 194 па пытаннях.



**199.** Расстаўце словы ў патрэбным парадку, каб атрымаліся сказы.







Запішыце сказы. Правільна афарміце іх на пісьме.

### Адкажыце на пытанні

**1.** З чаго складаецца тэкст?
**2.** Чым адрозніваецца тэкст ад набору сказаў?
**3.** На што можа ўказваць загаловак тэксту?
**4.** Што называюць тэмай тэксту?
**5.** Што называюць галоўнай думкай тэксту?

## ПАЎТАРЭННЕ

**200.** Прачытайце. У якім сказе заключаецца галоўная думка верша? Чаму людзі славяць хлеб?



**Хле*(б/п)***

На стале за*(у/ў)*сёды ёс*(т/ц)*ь.
Пастаянны ён, не гос*(т/ц)*ь.
Яму слава і хвала,
Бо *(у/ў)*сяму ён галава.

*М. Маскевіч.*

Спішыце. Якія літары трэба ўставіць у словы? Растлумачце іх правапіс. Падкрэсліце слоўнікавае слова, якое сустрэлася ў вершы.

**201.** Прачытайце. Чаму так гавораць?

Хлеб — усяму галава.
Калі хочаш хлеб мець, то трэба зямліцу глядзець.

Якая прыказка падыходзіць да верша з практыкавання 200 і дапамагае раскрыць яго галоўную думку? Запішыце яе па памяці.

**202.** Разгадайце рэбус.




Дапоўніце і запішыце сказ.

... — гэта праца многіх людзей.

Падкрэсліце літары, якія абазначаюць мяккія зычныя гукі.

Назавіце слова, у якім ёсць няпарныя цвёрдыя зычныя гукі.

**203.** Прачытайце назвы прафесій. Паспрабуйце растлумачыць, што робяць людзі кожнай з гэтых прафесій.

Палявод, камба́йнер, трактарыст, пекар, **мельнік**, прадавец.

Спішыце словы ў алфавітным парадку. Выдзеленае слова падзяліце на склады. Колькі гукаў і колькі літар у гэтым слове?

**204.** Прачытайце верш. Растлумачце правапіс прапушчаных літар.

Пшанічны к..лас — важкі самы,
ён дасп..вае ў жніўны час.
Пшанічны кол..с — шчодры самы,
частуе белым хлебам нас.

*М. Чарняўскі.*

Спішыце першы сказ, устаўляючы прапушчаныя літары.



**205.** Прачытайце верш.

Чорны, белы хлеб ці здобу
еш, але не забывай
быць удзячным хлебаробу,
што вырошчваў ураджай.

*А. Вольскі.*

Назавіце словы, у якіх ёсць няпарныя цвёрдыя зычныя гукі.

Знайдзіце і прачытайце словы, якія абазначаюць прадметы.

**206.** Прачытайце верш.

### Павучок

Пав*(у/ў)*чок — ткач-ткачок,
се*(у/ў)* на тоненькі сучок.
**Павуці*(н/нн)*е** сваё тка*(у/ў)*
і на го*(л/лл)*ейку снаваў.

*Л. Геніюш.*



***го́ллейка — галі́нкі***

Якія літары трэба ўставіць у словы? Растлумачце іх правапіс. Запішыце гэтыя словы.

Выдзеленае слова падзяліце для пераносу. Падкрэсліце ў ім літары, якія абазначаюць няпарныя звонкія зычныя гукі.

**207.** Прачытайце верш. Назавіце словы ў вершы, якія адрозніваюцца адным гукам.

Х..́раша, х..́раша
летам у б..ры —
і грыбы, і ягады
ў пры́гаршчы бяры.

*А. Вольскі.*

Спішыце. Устаўце ***о, э*** або ***а***, растлумачце іх правапіс.

**208.** Расстаўце словы ў патрэбным парадку, каб атрымаліся сказы.







Запішыце сказы. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць, пра што гаворыцца ў сказе і што гаворыцца.

**209.** Прачытайце скорагаворку. Вызначце націскныя склады ў словах. Навучыцеся правільна вымаўляць скорагаворку.

Жнівень працаваць умее —
жнівень жне і жнівень сее.
*Н. Галіноўская.*

Назавіце ў скорагаворцы словы, якія абазначаюць дзеянні прадмета.

**210.** Прачытайце верш, правільна вымаўляючы гукі [т], [ц’].



Ве..ер шэпча з каласамі.
Жмура..ь вочы васількі.
Жыта колецца вусамі —
**ас..ярожна**, матылькі!
*Н. Галіноўская.*

Растлумачце, якія *вочы ў васількоў* і *вусы ў жыта*. Каго нагадваюць вам *васількі, жыта*?

Якія літары трэба ўставіць у словы? Растлумачце іх правапіс.

Праверце напісанне выдзеленага слова па арфаграфічным слоўніку.



**211.** Прачытайце скорагаворку. Навучыцеся хутка і правільна вымаўляць яе.

Чэрвень. Чарнеюць чарніцы
і чырванеюць суніцы.
*В. Жуковіч.*

Спачатку назавіце словы з мяккім гукам [ц’], а потым — з няпарным цвёрдым гукам [ц].

Назавіце словы, якія абазначаюць дзеянні прадметаў.

**212.** Прачытайце верш. Вусна перакладзіце слова *сподак* на рускую мову.

## Лясныя сподачкі

Выраслі ля сце*(ж/ш)*кі
спо*(д/т)*кі-сырае*(ж/ш)*кі,
сподачкі ўсе новыя,
рознакаляровыя.

Смоўж з іх п*(ь/')*е,
і **сойка** п*(ь/')*е.
**Пойдзе** дож*(дж/ч)* —
іх зноў **нал*(ь/')*е.**

*В. Пчолка.*



Якія літары або знакі трэба ўставіць у словы? Чаму? Спішыце другі слупок верша. Падзяліце выдзеленыя словы для пераносу.

**213.** Прачытайце скорагаворку. Навучыцеся хутка і правільна вымаўляць яе.

Назавіце ў сказе прыназоўнікі. Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

Б**я**ры з сабою нож**ы**к,
гр**ы**бы збірай у кош**ы**к.

*Н. Мікліс.*

**214.** Прачытайце заклічку. Назавіце словы, якія абазначаюць прыметы прадмета.

Дожджык, дожджык дробненькі,
будзь ты, дожджык, добранькі,
лiся ты ўсю ночку,
каб раслі грыбочкі.

*А. Дзеружынскі.*

Растлумачце правапіс літар ***д, дз***.

**215.** Прачытайце верш. Якія літары трэба ўставіць у словы? Растлумачце іх правапіс.



Но*(ч/чч)*у *(т/ц)*ёплы дождж прайшоў,
і, як *(д/дз)*еткі каля маткі,
ля стар*(е/э)*нькіх масляко*(у/ў)*
в*(е/я)*сяля́цца масл*(е/я)*няткі.

*В. Гардзей.*

Спішыце, устаўце патрэбныя літары.

Падкрэсліце літары, якія абазначаюць мяккасць папярэдняга зычнага гука.

**216.** Прачытайце верш. На каго падобны дождджык у вершы?

## Дождджык-грыбасей

Косцю, Натку і Марынку
У грыбы в**я**дзе сц**я**жынка —
Да б**я**роз, **я**лін, дубочка**ў**,
Дзе праб**е**гся дождджык но**чч**у.
Шмат грыбо**ў** рассыпа**ў** дождджык —
Пэ**ў**на, бы**ў** дзіравы кошык.

*А. Зэкаў.*

Якія назвы дрэў сустрэліся ў вершы?

Растлумачце правапіс выдзеленых літар. Назавіце словы з гукамі [дз’], [дж].

**217.** Прачытайце слоўнікавыя словы ў красвордзе. Якія літары пішуцца ў іх на месцы пытальнікаў?



**218.** Гульня «Ланцужкі назваў». Складзіце ланцужкі слоў. Кожнае наступнае слова павінна пачынацца з апошняй літары папярэдняга.

У з о р:

назва грыба

***баравік*** імя дзяўчынкі

***Кацярына*** школьная прылада

***аловак*** назва горада

***Клецк***

Растлумачце правапіс вялікай літары ў словах.

## Слоўнікавыя словы

адка́з
вераб’і́
відэ́лец
во́кладка
гарбу́з
дзве́ры
дзяўчы́нка
дождж
ёсць
калідо́р
кватэ́ра
ла́стаўка
ле́свіца
ме́сца
надво́р’е
рукза́к
ручні́к
сусе́д
сцю́жа
тале́рка
учо́ра
цыбу́ля
я́блык

# Спіс выкарыстанай літаратуры

1. *Агняцвет, Э.* Буду настаўнікам / Э. Агняцвет. Мінск : Юнацтва, 1990.

2. Беларуская літаратура : Пазакласнае чытанне / аўт.-уклад. Л. І. Строк. Мінск : Юнипресс, 2009.

3. Беларуская дзіцячая літаратура : хрэстаматыя / склад.: М. Б. Яфімава, В. М. Ляшук. Мінск : Вышэйшая школа, 2003.

4. Беларуская дзіцячая літаратура : хрэстаматыя / аўт.-склад. М. Ф. Шаўлоўская. Мінск : Юнипресс, 2003.

5. *Буторына, І. А.* Літаратурныя зярняткі, або Развіццё творчых здольнасцей маленькага чытача / І. А. Буторына. Мінск : Рэдакцыя газеты «Звязда», 2012.

6. Бялыніцкі-Біруля : альбом-каталог твораў / склад. А. К. Рэсіна. Мінск : Беларусь, 1974.

7. *Верашчака, Г. І.* Развіццё маўленчай дзейнасці першакласнікаў / Г. І. Верашчака, Г. М. Федаровіч. Мінск : Выд-ва «Пачатковая школа», 2005.

8. *Вітка, В.* Чытанка-маляванка / В. Вітка. Мінск : Юнацтва, 1998.

9. *Вольскі, А.* Казкі з праўдай напалам / А. Вольскі. Мінск : Вытвор.-камерц. інавац. прадпрыемства «Асар», 1996.

10. Вясёлка 2006—2012 г.

11. *Галіноўская, Н. В.* Гусіны капялюш / Н. В. Галіноўская. Мінск : Юнацтва, 1994.

12. *Гарбук, В. С.* Такіх кветак не бывае / В. С. Гарбук. Мінск : Беларусь, 1971.

13. *Дзеружынскі, А.* Вяселікі / А. Дзеружынскі. Мінск : Мастацкая літаратура, 1979.

14. *Дзеружынскі, А.* Добры ветрык / А. Дзеружынскі. Мінск : Беларусь, 1969.

15. З любоўю да мовы / склад. : І. А. Гімпель, Г. В. Нарубіна. Мінск : Беларускі вучэбна-метадычны цэнтр, 1992.

16. *Клышка, А.* Тысяча арэшкаў / А. Клышка. Мінск : Народная асвета, 2012.

17. Крынічка : Чытанка / уклад. Р. М. Міронава. Мінск : Мастацкая літаратура, 2009.

18. *Кудлачоў, В. С.* Сонца ранак падарыла / В. С. Кудлачоў. Гродна : Гродзенская друкарня, 2008.

19. Мама — сонейка маё... / уклад. М. А. Маляўка. Мінск : Мастацкая літаратура, 2008.

20. *Мазго, У.* Прыгоды марахода / У. Мазго. Мінск : Юнацтва, 2002.

21. *Мацвеенка, У. І.* Сябрынка / У. І. Мацвеенка. Мінск : Юнацтва, 1995.

22. *Муравейка, І.* Вадзіца з крыніцы / І. Муравейка. Мінск : Мастацкая літаратура, 2006.

23. *Мушынская, Т. М.* Вожыкі ў футбол гуляюць / Т. М. Мушынская. Мінск : Литература и искусство, 2008.

24. *Пазнякоў, М.* Побач з татам / М. Пазнякоў. Мінск : Юнацтва, 1988.

25. Пахі вясны / Т. Кляшторная [і інш.]. Мінск : Юнацтва, 1991.

26. *Пранузa, П. К.* Першыя крокі / П. К. Пранузa. Мінск : Юнацтва, 1993.

27. *Пранузa, П.* Ручаёк / П. Пранузa. Мінск : Беларусь, 1969.

28. *Рунец, П. М.* Добрая душа / П. М. Рунец. Мінск : Мастацкая літаратура, 1977.

29. *Солахаў, А. В.* Падарожжа ад А да Я / А. В. Солахаў. Мінск : Зорны Верасок, 2012.

30. *Сторажава, Н. А.* Мова мая і твая : Вучу дзяцей па-беларуску. Мінск : Выд. А. Ванін, 1993.

31. *Тулупава, Н.* Дожджык Мікіта / Н. Тулупава. Мінск : Мастацкая літаратура, 1978.

32. Уступны вусны курс / Навук.-даслед. ін-т педагогікі : [Падрыхт. М. Г. Яленскі]. Мінск, 1982.

33. *Хамянкоў, М.* Чаму не спіцца сонцу / М. Хамянкоў. Мінск : Мастацкая літаратура, 2007.

34. *Хомчанка, В.* Паклон / В. Хомчанка. Мінск : Народная асвета, 1976.

35. *Церашкова, А.* Вершы-загадкі / А. Церашкова. Мінск : Мастацкая літаратура, 2012.

36. *Шах, С. М.* Вучым гаварыць і думаць / С. М. Шах. Мінск : Народная асвета, 1998.

37. *Шушкевіч, С. П.* Казачны церам / С. П. Шушкевіч. Мінск : Юнацтва, 1983.

38. *Шушкевіч, С. П.* Выбраныя творы : у 2 т. Т. 1 / С. П. Шушкевіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1978.

39. *Шырын, Л.* Ясь, жалейка і вясна / Л. Шырын. Мінск : Юнацтва, 1989.

40. *Ягоўдзік, У. І.* Год-карагод / У. І. Ягоўдзік. Мінск : М. Ягоўдзік, 2013.

## З м е с т

### ГУКІ І ЛІТАРЫ



### СЛОВА

(Назва і нумар установы агульнай сярэдняй адукацыі)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан падручніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне падручнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |

Вучэбнае выданне

**Свірыдзенка** Вольга Іванаўна

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА**

Падручнік для 2 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з рускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 2

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Н. М. Мамчыц*
Мастак *М. У. Мароз*. Мастацкі рэдактар *М. Я. Шкурпіт*
Камп'ютарная вёрстка *А. М. Брыкет*
Карэктары *Д. Р. Лосік, К. В. Шобік*

Падпісана ў друк 17.04.2015. Фармат 70×90/16. Папера афсетная.
Ум. друк. арк. 9,36. Ул.-выд. арк. 3,47. Тыраж 118 700 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай
рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/263 ад 02.04.2014. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа». Пасведчанне аб дзяржаўнай
рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 2/3 ад 04.10.2013. Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск